PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1871) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 22 САКАВІКА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*Міністры замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка і Польшчы Кшыштаф Скубішэўскі надпісваюць дыпламатычнае пагадненне.*

# МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ Ў ПОЛЬШЧЫ

### У ВАРШАВЕ

У днях 1–3 сакавіка афіцыйны візіт у Польшчу нанёс міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка. У нядзелю 1 сакавіка прысутнічаў ён на фінальным канцэрце агляду „Беларуская песня '92". У панядзелак падаўся ў Варшаву, на размовы з кіраўнікамі польскай дзяржавы.

Панядзелак 2 сакавіка якраз і быў найбольш працавітым днём візіту беларускага міністра. Спаткаўся ён з прэзідэнтам Польскай Рэчыпаспалітай Лехам Валэнсам і прэм'ер-міністрам Янам Альшэўскім. Вёў ён перамовы з міністрам замежных спраў Польшчы Кшыштафам Скубішэўскім, якія закончыліся надпісаннем дыпламатычнага пагаднення і консульскай канвенцыі.

Пасля надпісання гэтых важных дакументаў, міністры, выступаючы на прэс-канферэнцыі, заявілі, што хаця як Польшча, так і Беларусь думаюць пра сёняшні і заўтрашні дзень, аднак у сваім супрацоўніцтве гэтыя дзяржавы могуць звяртацца да традыцыі шматвяковых сувязяў сваіх народаў.

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь сказаў, што надпісаныя пагадненні гэта толькі ўступ да трактата аб супрацоўніцтве і добрасуседскіх адносінах. Ужо распачалася праца над падрыхтоўкай праектаў аднаведнага дакумента. Трэба спадзявацца, што будзе ён надпісаны ўжо ў час візіту старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча ў Варшаву. Нанесці афіцыйны візіт у Польшчу запрасіў спадара Шушкевіча прэзідэнт Валэнса.

Журналісты пыталі міністра Краўчанку пра перспектывы эканамічнага супрацоўніцтва між Польшчай і Беларуссю, пра будучую палітычную канфігурацыю дзяржаў Усходняй Еўропы (напрыклад, балтыйска-чарнаморская ідэя), пра адносіны да нацыянальных меншасцяў. Перад візітам спадара Краўчанкі, у польскай прэсе і тэлебачанні многа было інфармацый пра беларускія прэтэнзіі на Віленшчыну і справу дзяцей з ваколіц Чарнобыля, якія не хочуць вяртацца на бацькаўшчыну.

Міністр Краўчанка сказаў, што ў агульным плане гаспадарчае супрацоўніцтва абмяркоўвалася з прэм'ер-міністрам Альшэўскім. Беларусь найбольш моцнай адчувае сябе ў сярэднім машынабудаўніцтве, г.зн. трактары, аўтамашыны, тэлевізары, халадзільнікі і т.п. Ёсць і іншыя сферы супрацоўніцтва, якія перш за ўсё трэба пераносіць у дзве вольна-эканамічныя зоны ў раёнах Бярэсця і Гародні.

Пакуль існуе Садружнасць Незалежных Дзяржаў, няма што гаварыць пра новыя палітычныя канфігурацыі ў нашай частцы Еўропы, у тым ліку і пра балтыйска-чарнаморскую ідэю, заявіў Пётр Краўчанка. Дадаў ён, што Беларусь зацікаўлена ў супрацоўніцтве ў рамках СНД.

Ніякіх афіцыйных прэтэнзій Беларусь да суседзяў ніколі не выказвала. Прызнае тыя рэальнасці, якія склаліся ў Еўропе ў выніку Хельсінскіх дамоўленасцяў. З Літвою вядуцца перамовы, каб высветліць, „што ёсць што і хто ёсць хто", сказаў спадар Краўчанка.

У справе трактоўкі нацыянальных меншасцяў, за апошнія паўтара года адбыліся значныя змены ў лепшы бок, заўважыў міністр. Асабліва хутка на Беларусі ідзе працэс стварэння польскіх школ, працуе там некалькі дзесяткаў настаўнікаў з Польшчы. На Беласточчыне адраджэнне беларускага школьніцтва наступае марудней, але не заўсёды можна ў гэтым вінаваціць польскі бок,

( Працяг на стар. 5 )

## ДАГАВОР ПА-НАД ШКОЛАМІ

5 сакавіка міністры: нацыянальнай адукацыі Польскай Рэчыпаспалітай Анджэй Стэльмахоўскі і народнай асветы Рэспублікі Беларусь Віктар Гайсёнак надпісалі дагавор аб супрацоўніцтве ў галіне адукацыі. На яго падставе абменьвацца вопытам змогуць сярэднія і вышэйшыя школы абедзвюх краін. Будуць насылацца таксама на навуку ў Польшчу прадстаўнікі польскай нацыянальнай меншасці на Беларусі ды беларускай з Польшчы ў Беларусь.

Увечары гэтага самага дня абодва міністры спаткаліся ў Беластоку з адміністрацыйнымі ды асветнымі ўладамі нашага ваяводства. Перад сустрэчай міністр Стэльмахоўскі сказаў, што беларускі бок запрапанаваў стварыць навукова-культурныя цэнтры: польскі ў Гародні і беларускі ў Беластоку. Польскі бок на такую прапанову не быў падрыхтаваны, але лічыць яе годнай увагі. Са свайго боку міністр Стэльмахоўскі прапанаваў супольны аналіз падручнікаў (у першую чаргу гісторыі), паводле якіх навучаецца моладзь у Польшчы і Беларусі.

У пятніцу 6 сакавіка міністры меліся спаткацца з беларускімі асяроддзямі, спачатку ў будынку ГП БГКТ у Беластоку, затым у Беларускім ліцэі ў Бельску, Пачатковай школе ў Чыжах ды Беларускім музеі ў Гайнаўцы. На жаль, у сувязі з урадавым крызісам (Сейм не зацвердзіў праекта грамадска-гаспадарчай праграмы на бягучы год) міністр Стэльмахоўскі, перапрасіўшы сабраных на Варшаўскай 11, падаўся ў Варшаву. Прадстаўляў яго дырэктар дэпартамента па справах абмену з замежжам у міністэрстве нацыянальнай адукацыі Аўксэнцыюш Касіла. У сустрэчах удзельнічаў беластоцкі куратар асветы і выхавання Пётр Літэрмус. Суправаджаў гэтую польска-беларускую дэлегацыю старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Аляксандр Баршчэўскі.

Сустрэча ў Беластоку была чыста куртуазійная — А. Баршчэўскі прадставіў гісторыю беларускага школьніцтва ў пасляваеннай Польшчы. Беларусь раней увогуле не цікавілася лёсам сваіх суродзічаў за мяжою, гаварыў ён, гэты візіт дае спадзяванні на змену такой ненармальнай сітуацыі. Міністр Гайсёнак апраўдваўся, што і ў самой Беларусі да гэтай пары не было беларускага школьніцтва, адно копія расейскага, але, паколькі наступаюць цяпер змены ў самой рэспубліцы, зменіцца і падыход да суайчыннікаў за мяжою. Выступалі дырэктар Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі Янка Зенюк і старшыня Камісіі па справах сталых кантактаў з асветнай куратарыяй пры Радзе беларускіх арганізацый Віктар Стахвюк, але істотныя праблемы, такія, як недахоп падручнікаў, высокаадукаваных настаўнікаў, прапалі ў красамоўстве аратараў.

З канкрэтамі, з сапраўднымі клопатамі беларускага школьніцтва дэлегацыя сустрэлася толькі ў Бельску, у ліцэі імя Тарашкевіча. Пасля азнаямлення са

( Працяг на стар. 2 )




# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

## РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

**Частка VIII**

Можа ўзнікнуць сумненне: чаму гэта якраз я, чалавек-вольнадумец, займаюся рэлігійнымі пытаннямі? Ці маю на гэта права? Думаю, што маю, бо не займаюся ані праблемамі кананічнымі, ані рытуальнымі, не дзялю рэлігіі на горшыя і лепшыя, не цкую адных на другіх. Цікаўлюся выключна нацыянальным аспектам веравызнанняў і займаюся магчымым удзелам рэлігіі ў працэсе беларускага адраджэння. А ўсё гэта змяшчаецца ў грамадзянскіх правах кожнай дачкі і сына Беларусі. Вось з гэтых правоў і скарыстаўся я ў сваім цыкле „Рэлігійныя праблемы".

Тут я хацеў бы напомніць, што, калі ёсць Бог, дык, несумненна, аднолькава любіць усе нацыі, усе мовы і ўсе рэлігіі. Калі б было па-другому, дык ён не дапусціў бы да іх стварэння. У сувязі з гэтым, а таксама з тым, што беларуская нацыя — гэта нацыя рэлігійна плюралістычная, вельмі важная тут справа рэлігійнай талерантнасці. Эпоха палітычнага маналіту скончылася і, мабыць, ужо ніколі не вернецца. Палітычны плюралізм раней ці пазней загнездзіцца ў свядомасці беларусаў і будзе іх весці да палітычнай талерантнасці. Палітычная тале-рантнасць павінна спрыяць поўную свабоду для рэалізацыі сваіх нацыянальных і рэлігійных ідэалаў. Беларусы на працягу многіх стагоддзяў не маглі праяўляць і ажыццяўляць ні сваёй нацыянальнай тоеснасці, ні сваёй дзяржаўнасці. Перашкаджалі ёй у гэтым агрэсіўныя, экспансіўныя суседзі. Сёння, калі беларускі народ атрымаў дзяржаўную незалежнасць, мусіць праявіць талерантнасці рэлігійнай, і наадварот. Беларускае грамадства мусіць цывілізавацца і думаю, што з часам беларусы з іншымі, чым нашы, поглядамі, пераканаппямі і веравызнаннямі не будуць не толькі выклікаць у нас нянавісць, а будуць выклікаць зразуменне і пашану. З гэтым працэсам звязваю надзею і на тое, што ўсе жыхары Беларусі, якія не з'яўляюцца беларусамі, а належаць да такіх нацый, як: палякі, рускія, украінцы, літоўцы, татары, яўрэі, атрымаюць у Рэспубліцы Беларусь велікадушнасць таксама і да тых народаў, якія яго на працягу стагоддзяў прыгняталі. У ніякім выпадку не можа ён помсціць і адплачваць нянавісцю ці якім-небудзь прыгнётам тым нацыянальным меншасцям, якія па сваім паходжанні і нацыянальнай сутнасці належаць да былых захопніцкіх нацый. Гэтыя нацыянальныя меншасці мусяць поўнасцю карыстацца тымі правамі і абавязкамі, якімі карыстацца будзе ўвесь беларускі народ. Няхай гэтыя нацыянальнасці будуць не прыкрымі госцьмі, а сугаспадарамі беларускай зямлі і беларускай дзяржавы. З гэтага вынікае, што павінны быць поўнасцю забяспечаны іх асветніцкія, культурныя патрэбы.

Сказанае адносіцца і да рэлігійных патрэб.

Ідэя развіцця свабоднага грамадства здзейсніцца толькі тады, калі індывідуальная асоба будзе сама вырашаць, да якой хоча належаць арганізацыі і веравызнання. Не можа быць ідэалогіі і рэлігій, прывілеяваных у адносінах да права і дзяржавы. Аднак, не можа быць усенародных ідэалогій ці веравызнанняў, якія б шукалі інспірацый па-за беларускай зямлёй і беларускай дзяржавай.

Адраджэнне Беларусі здзейсніцца толькі праз адраджэнне беларускай духоўнасці, у тым ліку рэлігійнасці, якая не толькі не пагарджае беларускасцю, але трактуе яе як фундамент, сэнс свайго існавання.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

************************************************************

# ДАГАВОР ПА-НАД ШКОЛАМІ

**( Працяг са стар. 1 )**

школай, госці правялі размову з дырэктарамі Бельскага беларускага ліцэя, Пачатковай школы н-р 3 у Бельску, а таксама з не запрошанымі (sic!) прадстаўнікамі ад Гайнаўскага беларускага ліцэя.

З гайнаўскім ліцэем наогул атрымаўся скандал. Хаця спадар Баршчэўскі ў Беластоку падкрэсліваў, што пабудова новага будынка Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы гэта прыярытэтная справа для беларусаў у Польшчы, аднак дэлегацыя абмінула чамусьці гэтую школу. Замест яе асветныя ўлады набівалі ў Беларускім музеі. Дырэктар ліцэя Васіль Дамброўскі сказаў, што заўсёды лепш пабачыць маладога і прыгожага, чымсьці старога і брыдкага, таму і гэтая сустрэча ў Бельску, дзе больш-менш усё добра, а не ў Гайнаўцы, дзе школа развальваецца.

Дырэктар Васіль Дамброўскі гаварыў пра грамадскую камісію па рэформе навучання беларускай мовы, якую ён узначальвае. Настаўнікі — члены камісіі апрацавалі праграмы не толькі ўрокаў беларускай мовы, але і гісторыі, геаграфіі, музычнага выхавання. Патрэбная толькі кансультацыя з боку асветных улад і дапамога ва ўвядзенні іх у жыццё.

Старшыня бацькоўскага камітэта пры Пачатковай школе н-р 3 Аляксандр Бажко выказаў заклапочанасць будучыняй беларускага школьніцтва пасля 1994 года, калі асвета пяройдзе пад органы тэрытарыяльнага самакіравання. Неспакой гэты спараджаюць частыя польска-беларускія канфлікты ў Бельску-Падляшскім ды, увогуле, узровень сённяшніх улад горада, якія нават сумняваюцца ў існаванні асобнай беларускай нацыі. Школы з беларускай мовай павінны застацца пад спецыяльнай апекай куратара або і міністра адукацыі.

Прысутныя настаўнікі выказалі сваё здзіўленне інфармацыяй у польскім тэлебачанні, быццам бы на Беласточчыне працавала 40 беларускіх школ. Праўда ёсць такая: няма на сённяшні дзень ніводнае беларускае школы ў Польшчы, ёсць толькі польскія школы, у якіх па некалькі гадзін у тыдзень навучаецца беларуская мова.

Здзіўленыя былі таксама настаўнікі парадкам візіту беларускай дэлегацыі ў Польшчы. Спярша падпісваецца міждзяржаўны дагавор, у якім самай важнай справай з'яўляецца школьніцтва нацыянальных меншасцяў, а толькі пасля гэтага наступае азнаямленне з самім школьніцтвам.

Што з таго, што настаўнікі выказвалі свае заўвагі, прапановы, просьбы? Міністр Гайсёнак слухаў іх — нават не занатоўваў — і адсылаў да старога спосабу вырашэння праблем: звяртайцеся да польскіх асветных улад (можаце праз ГП БГКТ), з якімі мы надпісалі дагавор; яны абяцалі ўсе вашы пастулаты разгледзець.

На гэтым сустрэча закончылася. Госці адмовіліся ад абеду (раней запланавалі яго ў Пачатковай школе ў Чыжах) і падаліся ў Чыжы, Гайнаўку і Белавежу. У Бельску найбольш канкрэтным пасля гэтага візіту здаваўся пах рыбы, які разыходзіўся ад комплексу беларускіх школ да цэнтра горада, Прачысценскай царквы і „Лысай горкі", балазе была гэта пятніца — першая пятніца Вялікага посту.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### З ФАКЕЛАМ ГІПАКРАТА

Нядаўна на Беларусі ўзнікла яшчэ адна грамадская арганізацыя — асацыяцыя ўрачоў рэспублікі.

Галоўная задача асацыяцыі — вылячыць хворую беларускую медыцыну. Якім чынам? На думку членаў асацыяцыі, неабходна ўдасканаліць медыцынскае зака-надаўства рэспублікі, а таксама дапамагчы матэрыяльна недзяржаўным лячэбным установам.

### У ПЕРАБУДОВЫ — НЕ ЖАНОЧЫ ТВАР

Толькі на 16 тысяч чалавек павялічылася насельніцтва Рэспублікі Беларусь за ўвесь 1991 год, гэта амаль напалову менш, чым у 1990 годзе. Зараз у рэспубліцы пражывае 10 мільёнаў 300 тысяч чалавек.

### НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ, НІШТО НЕ ЗАБЫТА

У нядзелю 1 сакавіка ў Менску адбыўся мітынг-рэквіем у памяць аб знішчаных вясной 1942 года ста тысячах яўрэяў. Над магілай расстраляных была прачытана памінальная малітва — кадэш.

У той жа дзень у Рускім тэатры імя М. Горкага, размешчаным, дарэчы, у будынку былой сінагогі, адбылася вечарына памяці.

### ВЯСНА НА ПРАВАСЛАЎНАЙ ВУЛІЦЫ

У першы вясновы дзень айцец Мікалай, мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ЗША і Канады, адслужыў літургію на беларускай мове ў будынку Мінскай епархіі.

Заўважу, што гэта была першая літургія замежнага святара такога высокага рангу за ўсю пасляваенную гісторыю Беларусі.

### ГЭЙ, ГРЭНАДА! ГЭЙ, МАЁРКА!

Днямі адбыўся ўстаноўчы сход таварыства „Беларусь — Іспанія". У новую грамадскую арганізацыю ўвайшлі студэнты, пісьменнікі, бізнесмены, настаўнікі і вучні беларускіх школ з выкладаннем іспанскай мовы. Апошніх, дарэчы, у рэспубліцы 134.

Таварыства паставіла перад сабой мэту спрыяць культурным, эканамічным і палітычным сувязям паміж Рэспублікай Беларусь і Іспаніяй. Старшынёй рады абраны народны дэпутат рэспублікі Алег Трусаў.

### БЕСПРАЦОЎНЫЯ Ў РОСКВІЦЕ СІЛ

На пачатак гэтага года ў Беларусі 2 тысячы 55 чалавек маюць статут беспрацоўнага. Як сведчаць сацыя-лагічныя даследаванні, сярод беспрацоўных 82 працэнты жанчын і 18 працэнтаў мужчын. Прычым, як правіла, беларускія беспрацоўныя маюць вышэйшую адукацыю і працоўны стаж больш за 10 гадоў. Сярэдні ўзрост беспрацоўнага на Беларусі ў межах 31-40 гадоў.

### ФРАНЦУЗЫ ТУТ, ЯК ТУТ

Як паведаміў прадстаўнік пасольства Францыі ў Маскве Мішэль Пейсік, праз паўтара месяца ў Менску адкрыецца пасольства гэтай дзяржавы.

Нагадаю, што аб прызнанні Беларусі афіцыйна заявілі 70 дзяржаў свету. Праўда, пакуль што ў сталіцы нашай рэспублікі адкрыта толькі адно пасольства — ЗША. Акрамя таго, яшчэ з часоў Савецкай імперыі дзейнічаюць тры генеральныя консульствы — Польшчы, Германіі і Балгарыі. Цікава, што з дзяржаў былога СССР незалежнасць Беларусі афіцыйна прызналі Украіна, Малдова, Летува, Латвія, Таджыкістан, Казахстан, Арменія.

### — ДЭМАКРЫТЫ, ДАВАЙЦЕ ЖЫЦЬ ДРУЖНА! — ТОЛЬКІ ПАСЛЯ РЭФЕРЭНДУМУ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета і ўрад рэспублікі, нарэшце, афіцыйна выказалі свае негатыўныя адносіны да рэферэндуму аб адстаўцы парламента. „Будзем жа разважлівымі, не трэба злоўжываць свабодай і дэмакратыяй...

„Няхай лозунгам дня стане актыўны рух усіх уплывовых сіл ад барацьбы за ўладу — да ўмацавання ўлады". З такімі словамі звярнуліся кіраўнікі рэспублікі да сваіх палітычных апанентаў — дэмакратычных рухаў і партый, што вядуць падрыхтоўку рэферэндуму.

Зрэшты, дэмакраты адрэагавалі на гэтую заяву актыўнай працай па збору подпісаў у падтрымку правядзення рэферэндуму. Лідар Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк паведаміў, што ініцыятыўная група мае намер сабраць за некалькі тыдняў не менш 1 мільёна подпісаў, замест неабходных па закону 350 тысяч.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✱ Жыццёвая пасія а. Ю. Шурбака.
- ✱ Мітрапаліт Мікалай з Таронта на Беласточчыне.
- ✱ Калектыў „Каліна" з Дашоў.
- ✱ Што вернецца з экспанатаў у Беларускі музей?
- ✱ „Ніва" і белавежская бібліяграфія.

# ВОДГАЛАС З ТАГО БЕРАГА

Многія нашы людзі знаюць, хто такі Ян Пятроўскі. Ведаюць яго асабліва стваральнікі ды актывісты беларускай культуры, таму што Ян Пятроўскі — зафасцынаваны гэленістычным светам і стварыўшы на Фларыдзе, ЗША, своеасаблівы цэнтр выпраменьвання беларускага слова — напісаў ці пераклаў са старажытнай грэцкай літаратуры ды выдаў 26 розных кніг, брашур — і ўсе гэтыя каштоўныя рэчы перасылаў за свой кошт многім з нас сюды, на Беласточчыну.

Прыгадаем, аднак, для неасвядомленых чытачоў „Нівы", але і для яснасці справы, што Ян Пятроўскі нарадзіўся 20 студзеня 1905 г. у Слуцку. Часы рэвалюцыі 1917 г. прымусілі яго ўцякаць ад хаасу і голаду ў Польшчу. Тут ён акліматызаваўся, закончыў гімназію, служыў у польскай арміі. У 1928 г. пачаў вучыцца ў Тэалагічнай школе метадыстаў у Клярысэве. Пасля яе заканчэння працаваў год у Варшаве, потым чатыры гады ў Дзярэчыне. Ад 1936 г. яго пераводзяць у Варшаву, дзе ён служыць пастарам. Выбух другой сусветнай вайны адкідае яго яшчэ далей — як сотні іншых беларусаў — ад роднай зямлі: у сакавіку 1941 г. Ян Пятроўскі выязджае ў Нямеччыну.

Пра ўсё гэта вельмі падрабязна распавядае Ян Пятроўскі ў сваёй аўтабіяграфіі. Першы том жыццяпісу, узбагачаны здымкамі і дакументамі, пад загалоўкам **„Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. (1905—1945)"** ён апублікаваў у 1988 годзе. Ї вось пры канцы 1991 г. паявіўся другі том ягоных *„Успамінаў"*.* У іх аўтар апісвае перыяд 1945—1953 гадоў, хоць гэтыя часовыя рамы ахопу падзеяў тут даволі ўмоўныя, бо Ян Пятроўскі — дзеля паўнейшага вопісу асноўнага тадышняга закалоту свайго жыцця — то шукае паратунку ды апраўдання ў сваім даваенным лёсе, то зноў ацэньвае „нямецкі інцыдэнт" з вышыні пазнейшага вопыту, ужо як паўнапраўны грамадзянін таго, паўночнаамерыканскага кантыненту. Такім чынам пагрозлівыя даты „1945" і „1953", якія меліся пільнаваць „вывазу" матэрыялу па-за свае граніцы, паявіліся ў кнізе хутчэй за ўсё ў ролі арыенціраў першага этапу бежанскага жыцця, калі ён як ДП-іст трапляе ў перасылачныя лагеры Крэмсмюнстэра, Лінца над Дунаем і Брэмена.

Не сумняваюся, што не толькі мне, але й многім іншым людзям — ці то ахвярам, ці мо выбраннікам аседлага спосабу жыцця — здавалася, што ўсім эмігрантам (беларусам, палякам або каму-кольвек па нацыянальнасці) досыць лёгка было сігануць з разбураных вайной краін Заходняй Еўропы ў камфортную Амерыку ці казачную да плачу Аўстралію. Але — аказваецца — не так яно было! Нават тым, хто меў такія-сякія „плечы", як, у выпадку Яна Пятроўскага, кангрэгацыю метадыстаў, не давалася от так сабе проста й хутка выехаць, куды захацелася, абы далей ад адурнеўшай Еўропы.

У другой кнізе **„Мэмуараў"** Ян Пятроўскі ўводзіць нас якраз у даволі зменлівы клімат эміграцкага побыту. Праўда, аўтар не затрымліваецца на дробязях матэрыяльнага боку жыцця бежанцаў (хоць гаворыць ён шмат і пра многае між радкамі, шырока выкарыстоўваючы форму прамаўчання) і таму менавіта, што ўвесь другі том **„Успамінаў"** прысвечаны больш „тонкай гульні", удзельнікамі якой былі — з чыёй волі? — высокапастаўленыя асобы польскага касцёла метадыстаў: з аднаго боку, пастар Ян Пятроўскі, аўтар **„Мэмуараў"**, а з другога — Міхал Касьмідэрскі, які яшчэ перад вайной 1939 года „запачаткаваў паклёп" (стар. 235), ды генеральны суперінтэндэнт метадыстаў Гайдэр Ворфільд, які 15 гадоў у міжваеннай Польшчы старшынстваваў місійнай працы на т.зв. Крэсах Усходніх і які „падхапіў (паклёп Касьмідэрскага — Я.Ч.) і падтрымліваў праз увесь час вайны" (там жа) і праз якога справа Пятроўскага, калі той быў у Нямеччыне, абрастала ўсё свежымі недамоўкамі, паўпраўдамі ці проста фальшыўкамі і „знайшлася на тэрэне амерыканскае адміністрацыі, а пазней знайшлася сярод высокіх дастойнікаў розных арганізацыяў" (стар. 235—236).

Як піша Ян Пятроўскі, Гайдэр Ворфільд здаўна „вёў кротавую работу" (стар. 250), і ў канцы канцоў „ягоным замерам было наогул не дапусціць мяне ў Амэрыку" (стар. 238). А калі, пасля высвятлення „што Ян Пятроўскі рабіў у часе ваенных гадоў у Нямеччыне" (стар. 247), яму было дазволена пасяліцца ў Паўночнай Амерыцы, як бы апярэджваючы голас на тую тэму пакрыўджанага Яна Пятроўскага, Гайдэр Ворфільд разам са сваёй жонкай Ганнай хутка пішуць для англамоўнага чытача, які, як вядома, мае сваю спецыфічную ментальнасць, ёміста-прыгодніцкую кнігу **„Call us to Witness"**, у якой — у добрым для сябе святле — апісваюць канфлікт, што займеў месца ў асяроддзі польскага метадызму.

Ї каб жа не было гэтае кнігі Ворфільдаў, у якой і пастар Ян Пятроўскі, і польскі касцёл метадыстаў былі паказаны ў скрыўленым люстэрку, не было б, праўдападобна, і другога тома **„Мэмуараў"** пра такую непрыемную справу. Але рэжысёрам для нас ёсць само жыццё. Ї паколькі кніга Ворфільдаў паявілася, але польскі чытач яе не ведае, а жывым сведкам таго разладу „Ворфільд зачыніў вусны тым, што выплачваў ім месячныя солеры" (стар. 222), то выказацца ўжо як бы самой гісторыяй быў прымушаны „не бесстаронны" (стар. 290) сам Ян Пятроўскі. Вось таму кніга, каб быць больш нейтральнай, перапоўнена копіямі дакументаў, шматлікімі цытатамі, палемічнымі выказваннямі, зразумелымі толькі ў кантэксце ўсёй справы і для ўважлівага чытача, ды амаль судовымі справаздачамі.

Кнігу другі том **„Мэмуараў"** трэба хацець прачытаць. Яе стыль і нагрaмаджэнне дакументацыі спачатку адштурхоўваюць. Аднак, для беларускамоўнага чытача **„Успаміны"** Яна Пятроўскага маюць перш за ўсё велізарную пазнаўчую і фактаграфічную вартасць. Ї ўжо з'яўляюцца выключна багатай крыніцай для таго, хто займаецца гісторыяй касцёла метадыстаў. Аўтар адкрывае нам нябачныя для звычайных вачэй „краявіды" іншай вайны, якая вялася, вядзецца і якой, на жаль, не будзе канца між людзьмі за лепшы ды смачнейшы кавалак хлеба. Ї прайгрывае ў той барацьбе той — як піша Ян Пятроўскі — „на каго Бог, на таго і людзі" (стар. 295).

З **„Мэмуараў"** вынікае, аднак, што Бог не быў супроць іх аўтара. Яму відней...

------------------------

* Ян Пятроўскі, МЭМУАРЫ, Стагодзьдзе ў рэтраспекце (1945—1953). Кніга другая. Слуцак—Гэйнсвільл 1991, стар. 368.

**ЯН ЧЫКВІН**

**************************************************************

# НОВЫЯ ВЫДАННІ

Нядаўна трапілі мне ў рукі дзве каштоўныя публікацыі, у якіх многа месца адведзена беларускім справам. Абодва выданні з'явіліся ў 1990 г. у Варшаве і былі выдадзены невялікім тыражом Варшаўскім універсітэтам. Я палічыў сваім абавязкам паведаміць чытачоў „Нівы" аб змесце гэтых кніжак.

Пётр Врубель у працы „Польшча і фармаванне беларускай нацыянальнай свядомасці" * заўважае, што беларускі народ, карэнні якога сягаюць да прастарых рускіх плямёнаў і дзяржаў, не існуе ў такой форме, якую дасягнулі народы Заходняй Еўропы. Беларускі народ заўсёды развіваўся на тэрыторыі, раздзеленай дэмаркацыйнымі, акупацыйнымі, франтавымі або гранічнымі лініямі, у сітуацыі пастаяннай канкурэнцыі з боку мацнейшых, лепш геапалітычна лакалізаваных, нацый.

Выходным пунктам да разважанняў на тэму беларускай нацыянальнай свядомасці з'яўляецца матэрыял, які быў сабраны студэнтамі Гістарычнага інстытута ВУ у 1978-1979 г. у ваколіцах Драгічына і Бельска-Падляшскага для даследавання рэліктаў слаёнай свядомасці і іх сувязяў з рэлігійнымі і нацыянальнымі падзеламі. Гэтыя астатнія аказаліся найбольш цікавымі ў складанай рэчаіснасці Падляшша. У садзеянні з мясцовымі арганізацыямі, уладамі, адміністрацыяй, Царквой і Касцёлам аўтару і яго студэнтам удалося дайсці да унікальных дакументаў і зрабіць звыш ста апытанняў.

Гэта публікацыя можа быць цікавай і для тых, хто прывык бачыць навейшую гісторыю Польшчы праз прызму паражэнняў і мартыралогіі. Тым, хто захапляецца экспансіяй Польшчы на ўсходзе, паможа зразумець, якім коштам гэта адбывалася. Бельскі эпізод у працы самы важны — ён дазваляе наглядаць нацыянальныя працэсы на малой канкрэтнай тэрыторыі.

Зборнік „Музычная культура нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Літоўцы, беларусы, украінцы" ** гэта вынік працы навукоўцаў Музыкалагічнага інстытута ВУ. Паводле згоднага меркавання знаўцаў, стан музычнай культуры ў Польшчы катастрафальны. Праведзеныя ў 1984 годзе даследаванні даказалі, што 77 працэнтаў апытаных людзей ніколі не былі на сімфанічным канцэрце, а толькі 5 прац. бывае раз у год на нейкім канцэрце. Прычынай такога становішча з'яўляецца няправільная сістэма музычнага выхавання на ўсіх узроўнях. Змешчаныя ў зборніку апрацоўкі датычаць музычнай культуры літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы. Супольнай рысай гэтых грамадскасцей з'яўляецца імкненне да захавання сваёй тоеснасці, а рэалізуецца яно шляхам развіцця уласнай традыцыі і культуры. Музыка — сімвал этнічнанацыянальнай адасобленасці — адыгрывае тут важную ролю як фактар культурнай і грамадскай актыўнасці. Пра беларускія справы піша Дарота Фрасункевіч у раздзеле „Грамадскасць польскіх беларусаў. Інтэграцыя ці дэзінтэграцыя".

**д-р Мечыслаў Ваецкі**

-----------------------------

* Piotr Wróbel, Kształtowanie się białoruskiej świadomości narodowej a Polska. Prace Instytutu Historycznego Uniwersytetu Warszawskiego, Warszawa 1990, s. 110, nakład 500 egz.

** Kultura muzyczna mniejszości narodowych w Polsce. Litwini, Białorusini, Ukraińcy. Instytut Gospodarki Przestrzennej Uniwersytetu Warszawskiego, Warszawa 1990 redaktor tomu Sławomira Żerańska-Kominek, s. 181.

# НА ШЛЮБНЫМ ДЫВАНЕ

У мінулым годзе ў Беластоцкім палацы шлюбаў пажанілася 1700 пар. Толькі адзін, 30-гадовы кавалер, сказаў **„не"** ў дзень свайго шлюбу. Яго нарачонай была 26-гадовая дзяўчына. У некалькіх выпадках маладыя ў свой апошні кавалерскі вечар, аднак, так напіліся, што было ім не да жаніцьбы. З'явіліся ў ЗАГС праз адзін або два тыдні засаромленыя, але шчаслівыя.

Беластачанкі часта выходзілі замуж за нямецкіх грамадзян, амерыканцаў, французаў, бельгійцаў і арабаў.

Наогул нарачоны бывае на два-тры гады старэйшы ад дзяўчыны. Аднагодкі бываюць рэдка. Жэніцца і выходзіць замуж перш за ўсё пакаленне дваццацігодкаў. Найстарэйшыя пары — саракагадовыя. Сярод маладажонаў пераважаюць кавалеры і дзеўкі.

У канцы 1991 года пажаніліся пенсіянеры. Малады быў з 1909 года, а нявеста з 1930 года. Пенсіянеры ў ЗАГСе не забываюць пра фінансавыя сродкі. Пытаюць, ці не прыслугоўваюць ім ільготы. Аказваецца, што не. Значыцца, не варта чакаць з замужжам да пенсійнага ўзросту.

Многа пар бярэ шлюб на Каляды. У мінулым годзе ажно 49. Традыцыя падказвае, што гэта гарантуе ім шчасце на доўгія гады.

**Я.Ц.**




### ПАСЛЯ БАЛЮ

Давялося мне быць удзельніцай навагодняга балю ў клубе БГКТ у Беластоку і зараз з прыемнасцю ўспамінаю гэты вечар. Лічу, што баль быў вельмі добра арганізаваны, а дадатковыя атракцыёны рабілі мерапрыемства больш цікавым і спрыялі гуртаванню ўдзельнікаў супольнай забавы. А калі ў зале з'явілася звязда і ўсе сталі спяваць калядкі, мне прыпомніліся дзіцячыя і юнацкія гады, праведзеныя на вёсцы, калі мы з нецярпеннем чакалі першых калядоўшчыкаў са звяздой.

Другім вельмі мілым момантам, на маю і маіх субяседнікаў думку, быў навагодні тост намесніка старшыні ГП БГКТ Янкі Сычэўскага. Я захоплена незвычайнай індывідуальнасцю новага шэфа, якога я раней не ведала. Праўда, я не была частым госцем у БГКТ, але старалася быць на многіх культурна-асветных мерапрыемствах, арганізаваных Таварыствам. Пад час балю я заўважыла, што аднаўлена не толькі дэкарацыя, але і інакш, больш утульна, выглядае сама зала. Астатнія памяшканні таксама адрамантаваны. Са сцен не тырчаць ужо канцоўкі ад электраправодкі, зніклі царапіны і плямы на сценах і століі, а новае асвятленне стварае больш утульны настрой. Змяніўся выгляд сцэны, няма дзіркі ва ўваходных дзвярах. Што ж здарылася? Столькі ж працы зроблена ва ўмовах страшэннага недахопу грошай! І ніхто гэтым не хвастаецца, усе аб гэтым маўчаць.

Я захоплена новымі ўладамі Таварыства. Мне аж верыць не хочацца, што ў такі цяжкі час знаходзяцца яшчэ ахвярныя людзі, якія коштам сваіх сродкаў і свайго часу змаглі зрабіць так многа ў такі кароткі тэрмін.

Я, як шматгадовая наглядальніца і ўдзельніца жыцця БГКТ, выказваю словы сардэчнай падзякі і глыбокай пашаны спадару Я. Сычэўскаму і жадаю яму грамадскага прызнання, нястомлівасці ў працы і здароўя. А ўсёй нашай грамадскасці хацела б я пажадаць таго, каб у БГКТ настаў час канкрэтнай дзейнасці і каб адначасна замоўклі ўсе дэструктыўныя ўнутраныя сваркі, а таксама непаразуменні паміж паасобнымі арганізацыямі. У мяне складаецца такое ўражанне, што некаторыя з гэтых арганізацый узніклі толькі дзеля таго, каб аплёўваць іншых, крытыкаваць і туманіць.

Апамятайцеся, людзі мілыя! Пачніце займацца тымі праблемамі беларускай грамадскасці, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння. Дапамагайце тым, хто нешта карыснае робіць для нашай грамады. Гэтага хацелася б мне і маім субяседнікам па балю.

**АННА ПАЛЧЫНСКАЯ,**
**Беласток**
(*ганарар на Музей*)




# З дзённікаў С. Яновіча

**Працяг: 27-06-1988 г.**

Казбярук — з лістам ад Янушкевіча: 19-га антысталінскі мітынг у Мінску, водгук на публ. „Курапаты — дарога смерці". Прага Праўды!

Рэабілітавалі Ластоўскага, Лёсіка, Смоліча (пра што казаў і Сачанка). І А. Адамовіча з Нью-Йорка...

„Літаратура і мастацтва", „Полымя", „Маладосць" цяпер не залежваюцца ў кіёсках. Баявейшыя нумары трапляюць нават на „чорны рынак".

У сакавіцкім „Полымі" — несмяротнае Бачылы „У вянок „дабрадзею" (г.зн. Алесю Бажко, злыдзеню ў пісьменніцкім асяроддзі). У красавіцкім — дзённік Чорнага. Што ні нумар, што ні часопіс, — жахлівая сенсацыя! Не паспяваю чытаць, занатоўваць. А трэба ж і сваё пісаць. І няма калі.

Прыстудзіў мяне Ваўк-і (у амфітэатры на Свяце Беларускай Культуры, у час супербеларускага выступ. Барскага): дэлегацыя Пячэннікава прыязджала сюды не для помачы нам, беларусам, але... разведаць, як палякі вырашаюць тут беларускае пытанне, каб пераняць іх вопыт у, актуальным ужо, вырашанні польскага пытання ў БССР. А мы, дурні, радуемся ўвагаю Мінска да нас!

Канферэнцыя „Белавежы" — даволі ўданая. Прапаў „бар'ер афіцыйнай мовы", нават палякі загаворвалі па-беларуску (Пазьняк, Няўважны, Юркоўскі, Смашч). І Томас Бэрд толькі па-беларуску (перадаў цераз яго сёе-тое Андрусішыным).

Польскі непадцэнзурны друк „напаў" на беларускую праблематыку, як галодны на хлеб! Відаць, самі беларусы даюць куды больш інфармацыі палякам, чым літоўцы і ўкраінцы, якія не маюць — і не надта хочуць? — пашыраных сувязяў у Варшаве. Пра Беларусь голасна!

Кофман. Дваццаць сёмая „Krytyka" змясціла „Białoruskie resume" (зрэшты, на іхны заказ напісанае і раней апубл. у „Archiŭnym sšytku", ад няпэўнасці). Хоча супрацоўніцтва. Не зусім яснае нам, на якіх умовах... Сямтам не даспадобы ім (яму) „Resume", асабліва паніцце Беластоцкага краю, ад якога патыхае палякам... беларускім сепаратызмам!

Тур.: хай БССР перамадыфікуецца ў беларускую дзяржаву, разумную ды заможную, дык гэты сепаратызм пераўтворыцца ў рэальную моц! Усё залежыць ад эвалюцыі СССР. Etc.

Калі не прымаць эвентуальнасці новай сусветнай катастрофы, — якая нічым добрым не скончылася б беларусам, — лічу, што максімальнай перспектывай Беластоцкаму краю можа быць культурная аўтаномія з элементамі гаспадарчай (— „Dumki pra aŭtanomiju").

Ключ ад бліжэйшай будучыні свету знаходзіцца ўжо ў Кітаі. Рост патэнцыі гэтай імперыі схіляе Расійскую ў бок ЗША ды Зах. Еўропы. Антырускае значэнне Польшчы падае. Інтэграцыя арэалу Нямеччыны штурхае Варшаву ў абдымкі Масквы, якой бяссэнсава ўзмацняць унутраную ёй Беларусь, падтрымліваць ейныя залёты да Беластоцкага краю. Так во.

25-га Максімюк падарыў „Уліса. Кнігу першую" Джойса. Самвыдат, экз. 8-ы. Гэта падзея! Пазнаёміў яго з Сачанкам, каб падключыў Максімюка да мінскіх выдавецтваў. Удасца?

Успомнілася: у лютым 1958 г. я падобнай тэхнікай выдаў — свой беларускі пераклад, але з рускага, — „Апошнюю загадку" (з прыгодаў Шэрлака Гольмса). Мяне тады мала не пасадзілі за гэта!

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— І А. Адамовіча — Антон Адамовіч, эміграцыйны беларускі вучоны, прафесар, даследчык палітычнай гісторыі Беларусі і літаратуры;*

*— Бачылы — Алесь Бачыла, выдатны паэт і адзін з нямногалікіх інтэлектуалістаў савецкага часу, які захаваў чыстае сумленне;*

*— дэлегацыя Пячэннікава — скарочаная назва ад прозвішча тадышняга сакратара ЦК КПБ, які ўзначаліў партыйна-ўрадавую дэлегацыю Беларускай ССР, прыбыўшую з візітам на Беласточчыну;*

*— Максімюк — Ян Максімюк, журналіст „Нівы" і знаўца англійскай літаратуры: пераклаў на беларускую мову славутага „Уліса", эпахальны ў еўрапейскай літаратуры твор.*




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела), Варшава 1928.**

— 58 —

У пачатку мая 1922 года старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта Ярэміч даў Усходняму агенцтву інтэрв'ю, якое было апублікавана ў сто першым нумары „Gazety Krajowej". У гэтым інтэрв'ю Ярэміч сказаў, што дагэтуляшняя палітыка польскага ўрада, не маючы яснай праграмы ў справах нацыянальнасцей, не давала беларусам магчымасці культурнага развіцця. У сувязі з гэтым Беларускі нацыянальны камітэт выступаў супраць далучэння Віленшчыны да Польшчы. Беларусы, лічачы, што не маюць дастатковай гарантыі і магчымасцей развіцця, у выбарчы перыяд пастанавілі ўстрымацца ад удзелу ў выбарах у Віленскі сейм. Пасля далучэння Віленшчыны да Польшчы, беларусы прагнуць стаяць на грунце лаяльнасці ў адносінах да польскай дзяржаўнасці і далейшых распараджэнняў польскага ўрада.

„...Як старшыня прадстаўніцтва беларускай грамадскасці на Віленшчыне, я быў супольна з прадстаўнікамі паасобных арганізацый на аўдыенцыі ў пана начальніка дзяржавы і ў прэм'ер-міністра. Падкрэслілі мы там, што стаім на грунце польскай дзяржаўнасці, аднак просім загарантаваць нам правы на штодзённы побыт і культурнае развіццё.

Сваю пазіцыю акрэсліваем наступным чынам: якая будзе талерантнасць, такая будзе лаяльнасць".

Паводле Ярэміча беларускія пастулаты датычылі наступных пытанняў:

— справы культурнага развіцця (школьная праблема),

— справы адміністрацыі,

— справы эканамічнай структуры.

У выпадку ліквідацыі недахопаў і ў выпадку прымянення ў жыцці канстытуцыі ад 17 сакавіка Польшча можа разлічваць на поўную лаяльнасць беларусаў.

У адносінах да праектаванай палітычнымі чыннікамі аўтаноміі Віленскай зямлі Беларускі нацыянальны камітэт не займаў дагэтуль пазіцыі.

Вышэй прадстаўленае інтэрв'ю выклікала вострую дыскусію ў асяроддзях Беларускага нацыянальнага камітэта. У часе гэтай дыскусіі паўторна выявіліся разыходжанні ў палітычных поглядах сярод паасобных беларускіх груповак і стаў відочным моцны ўплыў урада Ластоўскага. Урад гэты надалей стараўся за любую цану не дапусціць да паразумення віленскіх беларусаў з польскім урадам.

Некаторыя члены Беларускага нацыянальнага камітэта лічылі, што ў сваіх заявах Ярэміч пайшоў задалёка і што яго пазіцыя аказалася занадта лаяльнай. Найбольш гвалтоўна атакаваў Ярэміча кс. Адам Станкевіч. Да расколу, аднак, не дайшло з увагі на блізкі тэрмін выбараў у Варшаўскі сейм. Дыскусія над інтэрв'ю давяла да кампрамісу. Старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта паслаў у рэдакцыю „Gazety Krajowej" ліст з абвяржэннем. У лісце гэтым Ярэміч заявіў, што:

„Інтэрв'ю сапраўды мела месца, але некаторыя з прыведзеных пытанняў увогуле не былі закрануты, а іншыя прадстаўлены недакладна".

Апрача гэтага абвяржэння Палітычная камісія Беларускага нацыянальнага камітэта на пасяджэнні ад 12 мая 1922 г. пастанавіла, каб Прэзідыум камітэта паслаў у прэсу наступны камунікат:

„Прэзідыум Беларускага нацыянальнага камітэта, пазна-ёміўшыся са зместам інтэрв'ю, дадзеным прадстаўнікам прэсы старшынёй Беларускага камітэта і апублікаваным Усходнім агенцтвам, канстатуе, што інтэрв'ю ў многіх месцах вельмі недакладнае ды надуманае і ў сувязі з гэтым сцвярджае:

1) што Беларускі нацыянальны камітэт дагэтуль не прыняў ніякай пастановы ў справе віленскага пытання,

2) што дэлегаты Камітэта, якія былі ў пана начальніка дзяржавы і прэм'ер-міністра, не выступалі з ніякімі палітычнымі заявамі, звязанымі з актам далучэння Віленшчыны да Польшчы, і ўказалі выключна на абавязкі ў адносінах да беларускага насельніцтва, выплываючыя з гэтага акту".

Вышэй прыведзенае абвяржэнне падпісалі Ярэміч, кс. Станкевіч і Кахановіч.

**(Працяг будзе)**

# МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ Ў ПОЛЬШЧЫ

( Працяг са стар. 1)

вінаватая ў гэтым і сама Беларусь ды яе непаваротлівасць. Сітуацыя беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і польскай на Беларусі павінна абапірацца на прынцыпе парытэту — такая пазіцыя міністэрства замежных спраў Беларусі.

Адносна „дзяцей Чарнобыля" міністр Краўчанка сказаў, што не ўсё так проста і адназначна, як паказвае гэта польская прэса. Справа гэта будзе высветлена і адпаведныя людзі возьмуцца за вырашэнне канкрэтаў.

Прэс-канферэнцыя працягвалася паўгадзіны, затым спадар Краўчанка падаўся ў Беласток на сустрэчу з прадстаўнікамі беларускіх асяроддзяў.

## У БЕЛАСТОКУ

2 сакавіка ўвечары міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка сустрэўся ў Галоўным праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку з прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў і асяроддзяў. У час гэтай сустрэчы міністр Краўчанка пазнаёміў прысутных з мэтай свайго візіту ў Польшчу, расказаў пра гаспадарча-палітычную сітуацыю ў Беларусі, а пасля адказваў на пытанні.

У сустрэчы з міністрам удзел узялі прадстаўнікі Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Літаратурнага аб'яднання „Белавежа", Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея, Беларускага аб'яднання студэнтаў, Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Беларускага выбарчага камітэта (ён усё яшчэ існуе як юрыдычная асоба) і Звязу беларускай моладзі. Прысутнічалі таксама прадстаўнікі гмінных самаўрадаў, бізнесмены, пасол Яўген Чыквін і журналісты.

„Я хацеў бы, не спяшаючыся, расказаць вам пра многае, таму што сустрэчы ў нас не так часта бываюць" — распачаў міністр Краўчанка. І сапраўды, нягледзячы на адбытыя ім у гэты дзень сустрэчы з прэзідэнтам і прэм'ерам Польшчы, міністр не пашкадаваў свайго часу і для беларусаў. Каментуючы перспектывы польска-беларускіх адносін (супольная дэкларацыя ўвосень дзевяноста першага і консульскае пагадненне), міністр Краўчанка сказаў, што ў найбліжэйшыя месяцы можна спадзявацца падпісання паміж Польшчай і Беларуссю палітычнага пагаднення — трактата аб супрацоўніцтве і добрасуседстве. Зроблены ўжо дзеля гэтага першы крок — прэзідэнт Валэнса запрасіў старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча нанесці візіт у Варшаву.

„Мяне, як прадстаўніка беларускага ўрада, турбуе вельмі складаны працэс нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва", — сказаў міністр Краўчанка. Беларускай дзяржавы, якую хацелі б бачыць беларусы „тут" і „там", пакуль няма. Яна ўсё яшчэ ствараецца. У стварэнні гэтым беларускія палітыкі абапіраюцца на ўсё, што было найлепшае ў пачатку стагоддзя, у дваццатых гадах, карыстаюць з вопыту суседзяў ды з вопыту пакутнай беларускай гісторыі. Беларусь мае парламент — у ім павінны адбыцца змены, пра якія вырашыць не „пэўная колькасць людзей, а народ". Беларускі парламент, па сваёй сутнасці, форме і назве павінен станавіцца ўсё больш нацыянальным — у кожнага народа ёсць свая традыцыя.

Канстытуцыя замацоўвае ў дзяржаве пэўны лад жыцця і палітычных суадносін — зараз беларуская прэса прадстаўляе грамадству праект гэтага закону, у маі адбудзецца адмысловая сесія Вярхоўнага Савета, прысвечаная першаму чытанню канстытуцыі, а ў канцы года, лічыць міністр Краўчанка, Беларусь будзе мець свой асноўны закон.

Палітычных партыяў у Беларусі пад дваццаць. Ніводная з іх аднак, паводле міністра Краўчанкі, не карыстаецца масавай падтрымкай — партыі ў Беларусі нагадваюць клубы палітычнай думкі, розныя па колькасці сваіх прыхільнікаў. У палітычным жыцці адзначаюцца дзве арганізацыі — Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і Беларускі народны фронт.

Тэму палітычнай сітуацыі ў Беларусі міністр замежных спраў закончыў рэфлексіяй, што народ усё больш звяртаецца ў сферу прыватнага жыцця. Як прыклад прывёў адзінаццаць выбарчых акруг, у якіх прайшло па шэсць-сем тураў выбараў, а народных дэпутатаў адтуль так і не аказалася.

Эканамічны быт Беларусі абумоўлены Садружнасцю Незалежных Дзяржаў. Да Садружнасці, сказаў міністр Краўчанка, ставімся сур'ёзна — гэта форма суіснавання на пераходны перыяд. Шлях Беларусі даўно вызначаны — незалежнасць, вяртанне ў Еўропу. Да вяртання гэтага Беларусь мусіць падрыхтавацца — шанцам з'яўляецца тое, што сёння ў Беларусі называюць усходнееўрапейскай эканамічнай супольнасцю (Менск накшталт Брусэля Усходу). Усходняя эканамічная супольнасць разлічана на 10-12 гадоў. Пазней, лічыць міністр Краўчанка, усходні рынак зліецца з агульна-еўрапейскім.

Дзесяцімільённая Беларусь апынулася ў сітуацыі самай мілітарызаванай краіны — на яе тэрыторыі знаходзіцца тактычная і стратэгічная ядзерная зброя ды 240 тысяч вайскоўцаў (Бундэсвер, параўнальна, налічвае 400 тысяч). Такая армія Беларусі непатрэбная. Урад стаіць на грунце абарончай дактрыны — Беларусі патрэбная нацыянальная армія велічынёю ў 30-50 тысяч вайскоўцаў, з фармацыямі хуткага рэагавання і паветрана-абарончымі фармацыямі. З афіцэрскім корпусам дзеля стварэння нацыянальнай арміі няма клопату. Сацыялагічны дослед паказвае, што на тысячу афіцэраў, якія знаходзяцца ў Беларусі, усяго двух жадае выехаць па-за яе межы. Акрамя гэтага, паўтары тысячы беларускіх афіцэраў, рассеяных на былым Саюзе, заяўляе гатоўнасць вярнуцца на бацькаўшчыну. Беларусь канстытуцыйна замацавала сваю нейтральнасць і бяз'ядзернасць. Рэспубліка ў найбліжэйшыя гады будзе пазбаўляцца ад ядзернай зброі. Калі гэтая зброя цалкам знікне, нельга сказаць, бо ў працэсе вываду шмат складанасцяў, якіх адразу не вырашыць. На сённяшні дзень, як бы падсумаваў міністр Краўчанка, трэба замацоўваць дзяржаўнасць на той тэрыторыі, якая ёсць, а далей — час і лёс пакажа.

У заканчэнні свайго выступлення Пётр Краўчанка расказаў пра працу свайго міністэрства. Міністэрства замежных спраў Беларусі налічвае ўсяго 73 чалавекі (у такім жа міністэрстве ў Варшаве працуе 800 асоб, а ў Маскве 3500). Дагэтуль каля 80 краін альбо ўсталявала, альбо заявіла гатоўнасць усталяваць з Беларуссю дыпламатычныя зносіны. У 1992 годзе Беларусь намерваецца адчыніць прынамсі сем пасольстваў: у Варшаве, Берліне, Вашынгтоне, Ізраілі, Стакгольме (на ўсю Скандынавію), Брусэлі ды ў Паўднёвай Карэі.

Дыскусію з міністрам запачаткаваў Аляксандр Баршчэўскі, які закрануў тры пытанні: тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Літвы, мова ў дзяржаўных установах Беларусі і справа беларускага консульства ў Беластоку. Інфармацыйны шум вакол тэрытарыяльных прэтэнзіяў, адказаў Пётр Краўчанка, узнік беспадстаўна, у выніку непаразумення. І ён, і старшыня Вярхоўнага Савета афіцыйна не пацвердзілі гэтых прэтэнзіяў. Што датычыць беларускай мовы ва ўстановах рэспублікі, дык сітуацыя далёкая ад ідэалу, але віна за гэта часткова і ў адсутнасці спецыялістычнай тэрміналогіі. У свой час урад Беларусі лічыў, што польска-беларускія адносіны трэба запачаткаваць консульствам у Беластоку, але ход палітычных падзей паказаў, што першы крок трэба зрабіць у Варшаве. Далей, сказаў міністр Краўчанка, усё будзе вырашацца паводле прынцыпу ўзаемнасці — магчыма, што ў Беластоку консульства ўзнікне.

На пытанне, ці беларускі шлях у Еўропу вядзе праз Польшчу, міністр Краўчанка адказаў, што і шлях Польшчы на Усход вядзе праз Беларусь. Абедзве краіны зацікаўлены ў вырашэнні транзітных пытанняў.

Беларусь намерваецца павялічыць колькасць кантрольна-прапускных пунктаў з Польшчай, а вось той у Кузніцы зачынены для не-службовых падарожжаў — адно гаворыцца, а што іншае на практыцы? Пэўныя змены, адказаў Пётр Краўчанка, праходзяць не так хутка, як нам гэтага хацелася б. Дапоўніў выказванне Лявон Каравайка: з мясцовымі ўладамі, беластоцкім і гродзенскім ваяводамі, не так ужо і проста ваяваць, бо адчуваюць яны сябе ваяводамі ў поўным значэнні.

Канстанцін Майсеня, традыцыйна ўжо, расказаў пра мытныя перашкоды ў пастаўцы будаўнічых матэрыялаў для гайнаўскага музея. Міністр Краўчанка сказаў, што справа гэтая знайшла ўжо здавальняючае будаўнікоў вырашэнне. Словы міністра прысутныя ўспрынялі з палёгкаю, якая выявілася ў форме бурлівых воплескаў.

Лявон Тарасэвіч (гмінны самаўрад Гарадка) запытаў пра ступень рэалізацыі праекта пагранічнага прапускнога пункта ў Баброўніках, бо пункт такі змог бы гаспадарча ажывіць гміну, якая зараз завязана дзяржаўнаю мяжою. Беларускі бок прыклаў амаль усе намаганні, каб гэты пагранічны пункт пачаў працу, але, на жаль, польскі бок не зрабіў у гэтай справе амаль нічога. Тым не менш беларускі бок знойдзе і матэрыялы, і сродкі, каб праект давесці да канца. Лявон Тарасэвіч звярнуў яшчэ ўвагу, што датацыя для беларускай меншасці, за якую дзякавалася польскаму ўраду, не была ўжо такой вялікай (мільярды былі польскія, а не італьянскія) ды ў выпрацаванні гэтых сродкаў удзельнічалі беларусы як частка гэтай краіны. Міністр Краўчанка адказаў, што ягоныя польскія калегі, пэўна, не маюць паўнамоцтва, каб выказвацца на гэту тэму, але паводле яго такія сустрэчы, як гэтая, паспрыяюць лепшаму ўзаемаразуменню і адносінам паміж урадамі і меншасцямі.

Юры Ляшчынскі (Радыё — Беласток) запытаў пра адносіны міністра да справы чарнобыльскіх дзяцей у польскіх сем'ях. Міністр з адказам не спяшаўся — вернемся дадому, тады задумаемся. Выказванне дапоўніў Лявон Каравайка. У Польшчу галоўным чынам прыязджаюць дзеці з дзіцячых дамоў Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Яны трапляюць тут у лепшыя ўмовы, чым мелі ў сябе, але да таго, што іх тут будуць прытрымліваць сілаю, не дойдзе. Узнікне ў нас камісія, якая будзе разглядаць сітуацыю гэтых дзяцей у польскіх сем'ях.

Валянцін Сельвясюк (БДА, прадпрымальнік) звярнуў увагу на неабходнасць аўтаматычнай тэлефоннай сувязі з Менскам, бо сувязь такая паспрые бізнесу дый будзе яна не без уплыву на культурныя кантакты. Зараз некалькі заходніх фірмаў, адказаў міністр, канкуруе, каб манапалізаваць гэту дзялянку. Паляпшэння тэлефоннай сувязі можна спадзявацца праз 3-5 гадоў.

У Польшчы была пашырана прыгранічная зона, у выніку чаго запынілася развіццё некаторых гмінных цэнтраў. Пятро Багроўскі (Беларускі выбарчы камітэт) запытаў, ці Беларусь у сваім шэсці ў Еўропу намерваецца зрабіць падобнае. Міністр замежных спраў Беларусі адказаў, што яго краіна жадае, каб польска-беларуская мяжа была „вельмі-вельмі празрыстай", каб была яна „мяжой дружбы і супрацоўніцтва", а „тыя рэжымныя рэчы, якія ўзнікаюць, думаю, не будуць спрыяць гэтаму", сказаў Пётр Краўчанка.



*Міністр Пётр Краўчанка ( у сярэдзіне ) на сустрэчы ў БГКТ.*

## НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У аўторак 3 сакавіка Пётр Краўчанка наведаў Супрасль, дзе пазнаёміўся з адбудовай Благавешчанскай царквы — выдатнага помніка праваслаўя і беларускай культуры. Пабываў таксама ў Гайнаўцы, на месцы пабудовы Беларускага музея.

Наведаннем Гайнаўкі візіт міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі закончыўся. Меў ён вялікае значэнне не толькі для Беларусі, для якой было гэта першае дыпламатычнае пагадненне з іншай краінай. Пра гэта сведчыць зацікаўленне візітам польскага тэлебачання і цэнтральнай прэсы. Толькі польскамоўныя беластоцкія газеты прыйшлі да вываду, што ёсць тэмы значна цікавейшыя, чымсьці візіт беларускага міністра на Беласточчыне. Ну што ж, можа для Беластока міністры іншых дзяржаў гэта справа штодзённая.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК, АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтараў**

**„Беларуская песня '92"**

# ФАЛЬКЛОР ЦІ СУЧАСНАСЦЬ?

Любяць беларусы сваю песню! Любяць — ніхто не запярэчыць, калі нават выразна зазначаная цяжарнасць не паўстрымала дзвюх спявачак з Бельска ад выхаду на рассяпяваную і растанцаваную сцэну.

Аднак жа вось ужо добрых некалькі гадоў у беларускім асяроддзі ідзе дыскусія наконт таго, што патрэбнае нам больш: старая фальклорная песня ці песня наскрозь сучасная, прыаздобленая модным стылем выканання — з рухам на сцэне, цяперашняй вопраткай, няколішнімі музычнымі інструментамі.

Пасля канцэрта сустракаю на вуліцы знаёмую, якая сама спявае. „Ай-ай-ай! — кажа яна.— Як жа тая маладзенькая спявае народныя песні! Ну тая, што ў джынсавай спадніцы выйшла, Ірэна Лукша, здаецца, называецца. Якія песні цудоўныя, старыя... Ну, поўная супрацьлегласць гэтаму кабарэтнаму стылю. А тая другая, пажылая ўжо жанчына ў народнай вопратцы, — (Ніна Такаюк з Мікуліч, падказваю я), — таксама як аўтэнтычна спявала!"

Але прыйшоў у рэдакцыю калега і як умеў, так выказаў сваё абурэнне. Што робіць, маўляў, у конкурсе на такім высокім узроўні фальклорная песня — мала сцэнічная, аджыўшая, неэфектная?! Ці ж можна яе ставіць у адзін рад з песнямі сучасных беларускіх кампазітараў?!

І мне стала крыўдна за старую беларускую песню, якая вякамі хадзіла ў народзе, перадавалася з вуснаў у вусны, была аздобай у радасныя хвіліны, суцішала ў няўмольным горы, суправаджала селяніна ў часе розных рэлігійных свят ды абрадаў.

Здаецца мне, што калі ўжо нехта выцягнуў з куфэркаў памяці сваіх бабуляў і маці старадаўнія, паўзабытыя мелодыі і прывёз іх на агляд у Беласток, дык варта нізка пакланіцца яму. Маю на думцы не толькі ўспомненых тут салістак, але і вясковыя калектывы з Дабрывады, Арэшкава, Курашава, Хільмонаў, Краснага Сяла, якія выступілі на цэнтральным аглядзе.

Вось менавіта, „Красуні" з Краснага Сяла. Іх выступленне было на мяжы тэатральнай пастаноўкі. Даўно ўжо не бачылі мы нечага так арыгінальнага:



*Эля Сушко з Варшавы заняла І месца сярод салістаў у катэгорыі сучаснай песні.*

вясельныя песні з маладой, сватам, са сталом, засланым белым абрусом (на якім — і хлеб, і паўлітра), з „перапіваннем".



*„Красуні" з Краснага Сяла атрымалі ўзнагароду „Нівы" (І месца ў катэгорыі фальклорных калектываў).*

І рэч найбольш загадкавая: у ролі маладухі выступіла і заспявала радавітая полька са Шлёнска — Ірэна Півавар, якая ў Красным Сяле, што за Бельскам, жыве няцэлых шэсць гадоў. Прывёз яе сюды муж, Мечыслаў Півавар (выступіў у ролі свата), і вучыць яна тут дзетак у пачатковай школе. Беларуская народная песня стала ёй як родная...

Калі ўжо гаворым пра фальклорныя калектывы, дык незразумела мне, чаму рэпертуар „Хлопцаў-рыбалоўцаў" з Рыбалаў журы залічыла ў катэгорыю сучаснай апрацаванай песні. Гэта ж фальклор (хаця і сучасны) чыстай вады! Самі ж яны пішуць тэксты і музыку (маю на думцы перш за ўсё Міколу Ігнацюка), але ж сяляне яны, а не кампазітары! У катэгорыі сучаснай песні цяжка бліснуць ім на фоне гайнаўскага ці бельскага хораў з дырыжорамі і аркестрамі, цяжка канкурыраваць і з прафесіянальнымі аўтарамі музыкі.

Што б мы не гаварылі, што б мы не пісалі, трэба сцвердзіць: паступова, але няўхільна перамагаюць тыя, што ставяць на сучаснасць. Лягчэй здабыць у конкурсе прызнанне слухачоў, лягчэй заваяваць узнагароду; сучасную

***

# Дзеля долараў

4.

Амерыканскі стыль жыцця часта называюць цывілізацыяй празмернасці альбо цывілізацыяй перасыці (civilization of excess). Гэта не столькі адносіцца да ўдзельнай „вагі" спажываных адным статыстычным амерыканцам дабротаў з капіталістычнага рынку тавараў і паслуг (існуе ж нейкая біялагічная мяжа кансумпцыі, якую не ў змозе адолець і амерыканцы, наогул людзі ашчадныя і прывязаныя да кулінарнае дыеты), колькі да разнароднасці формаў у кансумпцыйных паводзінах. Рынак імгненна рэагуе на ўсе праявы новага, нават найбольш дзівацкага, запатрабавання. Усё, зразумела, абапіраецца на строгай эканамічнай калькуляцыі — ніхто не робіць нічога задарма, дзеля арыгінальнасці ці забавы. Але чалавек, якога гадамі прызвычайвалі да манапалістычнай мадэлі кансумпцыі ў камуністычнай эканоміцы, апынуўшыся ў Амерыцы, рэагуе спачатку прыблізна так — каму гэта ўсё трэба, у жыцці можна абысціся і дзесяцю працэнтамі таго, што яны тут прапануюць, і ой як добра будзе. Дарма было б тлумачыць гэта амерыканцам — яны цябе не зразумеюць. Потым прыходзіць думка, якая, мабыць, не надта і далёкая ад сутнасці дэмакратыі ў ліберальным капіталізме, хоць поўнасцю, безумоўна, яе не характарызуе: народ спасцерагае дэмакратыю перад усім праз эканамічныя адносіны прадуцэнт — спажывец, а не праз прызму „вялікае палітыкі", што робіцца ў кангрэсе ці ў Белым Доме, і на падставе гэтага эканамічнага досведу кшталтуе сабе амерыканскі стандарт дэмакратыі. Калі эканамічная сістэма такая, што ў змозе забяспечыць усе „меншасныя" патрэбы, палітычная надбудова яе не можа быць інакшай. Нейк так.

Вышэй сказанае знакаміта тлумачыць той факт, што амерыканцы ацэньваюць краіну як самую дэмакратычную ў свеце, маючы практычна двухпартыйную палітычную сістэму, у якой ідэалагічныя разыходжанні паміж рэспубліканцамі і дэмакратамі, калі яны ўвогуле ёсць, нікога ў сапраўднасці не абыходзяць (ніхто ў іх не разбіраецца, праўду кажучы). Тое, што сапраўды мае значэнне і хвалюе грамадства ў палітычным працэсе — гэта эканамічныя пытанні, спасцераганыя пераважна ў катэгорыях падаткавых, федэральнай і лакальнай (штатавай), сістэмаў. Такія паводзіны тыповыя для грамадскай апоры амерыканскай дэмакратыі — так званага сярэдняга класа (middle class), гадавыя даходы якога змяшчаюцца недзе ў дыяпазоне ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх сотняў тысяч долараў.

Каб трымаць у руху ўсю гэту цывілізацыю празмернасці, амерыканцы апрацавалі зусім неверагодную сістэму рэкламы. Рэклама ў Амерыцы — гэта асобная дзялянка эканамічнай актыўнасці, з асобнымі дзеля яе канцэрнамі і адукацыйнай сістэмай. Справа генеральная, аднак, у тым — рэклама дзейнічае там, дзе прадуцэнты дастаўляюць тавары ў неабмежаванай колькасці, а кансументы маюць грошы, каб іх набыць. З гэтае прычыны рэклама ў камуністычных эканоміях была заняткам, пазбаўленым элементарнага сэнсу. Рэклама ў цяперашняй Польшчы, як мне здаецца, набыла сэнс больш-менш у 50 % — усё добра з боку прадаўцоў, толькі з попытам слабавата, бо людзі не маюць грошай.

Падам колькі прыкладаў гэтага рэкламнага шаленства, якое бушуе ў Амерыцы, без прэтэнзій на нейкія абагульняльныя вывады, якія, зрэшты, ніхто не ў змозе кампетэнтна зрабіць з пазіцыі вонкавага назіральніка.

Першая рэч — гэта тэлебачанне. Усе агульнадаступныя каналы літаральна нашпігаваныя рэкламнымі ўстаўкамі (commercials) — рэгулярна кожныя 10-15 хвілін праграма перапыняецца і на некалькі хвілін у наогул прафесійна сфільмаваных сцэнках (многія з іх надзелены своеасаблівым амерыканскім гумарам) прамываюць табе мазгі, маўляў, купляеш нейкае барахло, а вось мы табе прапануем рэч і танную і знакамітую, бачыш, хапай кашалёк і бяжы, а калі бегаць не



*Ніна Такаюк з Мікуліч (III месца сярод салістаў у катэгорыі аўтэнтычнай фальклорнай песні).*

песню зразумее кожны. А фальклорная песня — яна, дазволю заўважыць, як брыльянт, — у якога бляск дыскрэтны, не кожнаму бачны і зразумелы, але вартасць яго ад гэтага не змяншаецца, а наадварот — расце. Тым больш, што гэтых брыльянтаў на нашым песенным рынку ўсё менш і менш...

Была б я, аднак, несправядлівай, калі б сказала кепскае слова па сучасны пурт у конкурсе „Беларуская песня". Новая „зорка" з Варшавы Эля Сушко зрабіла ў Беластоку фурор сваім моцным, вышкаленым голасам. Ужо яна заканчвае сярэднюю музычную школу ў класе вакалістыкі, збіраецца паступаць у кансерваторыю, каб школіць голас далей. Хочацца верыць, што Эля не парве сувязяў з беларускай песняй нават і тады, калі ўжо будзе славутай спявачкай.

А зусім маладзенькая Эля Мацкевіч з Гданьска? Недзе далёка ззаду засталася традыцыйная беларуская нясмеласць, прыніжанасць (мужыцкасць, як бы сказаў Сакрат), калі вучаніца II класа ліцэя ўпэўнена і адважна, без комплексаў выйшла на сцэну ў кароткіх штоніках і модным капялюшыку і праспявала - адтанцавала ў сённяшнім рытме беларускую „Папараць-кветку".

Дасканала выступілі калектывы з Гданьска, Гайнаўкі, Бельска, прадстаўляючыя сучасныя беларускія песні, а таксама маладыя салісты — пераважна ліцэісты, паявілася больш




*Фальклорны калектыў з Курашава.*

інструментальных ансамбляў. Усё гэта не можа не цешыць наша сэрца.

Але яны — моцныя. Цвёрда стаяць на сучасным грунце. Не патрабуюць абароны. Ратаваць трэба песню фальклорную, каб не занікла зусім.

Дык мо даспелі мы ўжо да двух фестываляў: **беларускай фальклорнай песні і беларускай сучаснай?!**

Вядома, калі будуць на гэта грошы...

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота**
**СЯРГЕЯ ГРЫНЯВІЦКАГА**



*Дуэт з Бельска Лідзія Маліноўская–Багуслава Карчэўская падзялілі I месца з Эляй Сушко ў катэгорыі сучаснай песні.*



*Фальклорны калектыў з Хільмонаў.*

***

хочаш, дык пазвані, самі прывязем. Рэкламуецца ўсё, новыя сандвічы ў забягалаўцы „якраз за рогам", аўто на раты, падарожжы па Караібах, лякарства ад кашлю, эратычны тэлефон („пазвані, я чакаю цябе, са мной можаш пагаварыць пра найскрытшыя твае мроі, усяго $ 4.49 за хвіліну") і неверагодная дыета („бачыш, вось гэты чалавек скінуў 250 кілаграмаў за 6 месяцаў, звані хутчэй"). Агульнадаступныя каналы тэлебачання (за іх не плоціш абанементу) ўтрымліваюцца якраз за кошт рэкламаў, ніякае датацыі не маюць. Канал 13 у Нью-Йорку, таксама агульнадаступны, але некамерцыйны, апошнім часам не можа знайсці спонсараў, і вечаровыя навіны чытае дыктар з-за экрана, няма грошай на тэхнічную экіпу. Калі хочаш паглядзець нешта без усіх гэтых макаронаў і фантастычных сродкаў дзеля мыцця шкарпэтак, закладай кабельнае тэлебачанне — плоціш абанемент.

Тое самае ў газетах і часопісах. Нядзельнае выданне газеты нумар 1 у ЗША — The New York Times — важыць два кілаграмы (зважыў яе асабіста, дзеля прафесійнае цікавасці): 90 % месца ў ёй займае рэклама. Бог адзін ведае, хто яе чытае. Што да журналісцкага матэрыялу, дык ён раздзелены на часткі, як бы асобныя газеты — калі цябе не цікавіць нічога, акрамя спорту, дык можаш усё астатняе выкінуць: спартыўны матэрыял пададзены ў асобнай section. Няблага прыдумана. Аніякага таталітарызму.

Уражвае тое, што ў краме, дзе звычайна купляеш харчы і іншыя рэчы хатняга ўжытку (grocery), штодня маеш выкладзены адмысловы бюлетэнь, у якім інфармуюць цябе, што якраз прадаецца па зніжанай цане. Мала таго, кожныя два-тры дні спецыяльны пасланец разносіць гэтыя бюлетэні па наваколлі да патэнцыяльных кліентаў тае крамы.

Кожная значнейшая сетка крамаў у Амерыцы акрамя гэтае друкаванае рэкламы вядзе таксама напорыстую і густую рэкламу ў тэлебачанні — яна кульмінуецца ў перадсвяточных перыядах, калі людзі традыцыйна раскашэльваюцца і гандлёўцы хапаюць ільвіную частку гадавога прыбытку. Вялікай нечаканасцю для амерыканцаў сталася банкруцтва найбольшай гандлёвай сеткі на свеце — Macy's — якая ахоплівала каля 250 універсальных і спецыялізаваных крамаў па ўсёй Амерыцы і абарочвала мільярдамі. Знак гэта самы выразны, што амерыканская эканомія адхілілася ад стану стабільнасці досыць сур'ёзна.

Асаблівы паказаўся мне і звычай назначання цэнаў на тавары. Паўсюдна сустракаюцца цэны тыпу 9.99, 49.99, 999 і г.п. Практычна паміж сумамі, прыкладова, 9.99 і 10 розніца аніякая, але псіхалагічна — нешта ёсць („гэта ўсё-такі дзевяць долараў, а не дзесяць"). Другая асаблівасць — гэта продаж па абніжаных цэнах (off sale). Яе папярэджвае, а як жа, рэкламны шум, які набірае пад канец прыкметаў нейкае ліхаманкі. І калі так глядзіш, слухаеш і чытаеш, дык воляй-няволяй пачынаеш адчуваць, што ты ўсё ж такі застанешся ў дурнях, калі не пакарыстаешся гэткай аказіяй, якую табе тычуць проста пад нос. Справа тут, бадай, у назначэнні пачатковае цаны, з якой пазней спускаюць — 50 %, 60 % і болей. Псіхалагічна эфект дзейнічае без промаху — як не купіць, калі раней яно каштавала вунь колькі, а цяпер у тры разы менш? А паколькі ты не ведаеш (і ніколі не даведаешся), якая была оптавая цана тавару для гандлёўца, дык купляеш з поўным перакананнем, што ён пра нішто іншае не думае, як толькі пра ашчаднасці ў тваім сямейным бюджэце.

Усе гэтыя гандлёўцы ў амерыканскім капіталізме неверагодна ветлівыя. Ніколі не нервуюцца, калі кліент капрызнічае ці перабірае, вітаюць і развітваюцца з табою усмешкай, незалежна ад таго, купіў ты ў іх на 10 ці на 100 долараў, ці ўвогуле не купіў нічога. Закупы ў Амерыцы, калі ты пры грашах, гэта надзвычай уражальны рытуал для чалавека, скажам агульна, з Усходу.

Урэшце, адна з асаблівых формаў прамоцыі і рэкламы ў Амерыцы — тэлефонная рэклама. З ёю ад нейкага часу я маю рэгулярныя дачыненні — раз на месяц звоняць мне агенты дзвюх штодзённых газет, прапануючы ну так карысныя формы падпіскі, што я адчуваю сябе апошнім нікчэмнікам, рэгулярна ім адмаўляючы, спачатку адмаўляў наадрэз, але апошнім часам нашы размовы перайшлі, так бы мовіць, на сяброўскі тон і агульнажыццёвыя тэмы: маю ўжо адно надзею, што на той час, калі яны канчаткова мяне апрацуюць, я буду пакаваць валізы на дарогу дадому.

**ЯН МАКСІМЮК**




### ДА „ВЯРБЛЮДА"

Прачытаўшы ў „Адгалосках" („Ніва" н-р 7/92), не магу быць абыякавай на далейшыя зверскія напасці аўтара артыкула „Дакажыце, што я вярблюд" на зусім невінаватага Я. Ц., які ў справаздачы з настаўніцкай канферэнцыі („Ніва" н-р 48, „Перш за ўсё заангажаванне") змясціў сказ, што Я. Мордань атрымаў адмоўную ацэнку працы ад настаўнікаў.

Пане Мордань! Стукніцеся тры разы ў грудзі і крытычна гляньце на сваю асобу і прааналізуйце свае ўчынкі! Прапаную таксама прыпомніць усе раённыя агляды, у час якіх вы паводзілі сябе некарэктна. Прыміце да ведама, што настаўнікі, людзі з вышэйшай адукацыяй, старэйшыя за вас, да конкурсаў рыхтуюць моладзь грамадскім чынам і маюць права вырашаць, з кім маюць жаданне супрацоўнічаць і з кім супрацоўнічаць адмаўляюцца. А вашыя падрыхтоўкі да конкурсаў?! Думаеце, што такога тыпу арганізацыя адпавядала настаўнікам?! А ці часам не на вас настаўнікі пісалі скаргу ў Прэзідыум ГП БГКТ пасля правядзення конкурсаў у мінулым годзе?! А ці гэта не вы распараджаліся, як прыватнай уласнасцю, узнагародамі і дыпломамі на аглядзе — давалі іх і забіралі назад?! А ці вы не бачылі, з якой антыпатыяй адносіліся да вашых хітрасцей настаўнікі ў час конкурсаў?! А ці гэта не вы падрывалі аўтарытэт настаўнікаў перад вучнямі і бацькамі?! А ці хаця раз настаўнік мог вас пераканаць, што вы не маеце рацыі?! А ці вы педагог і філолаг, што кожны раз самі сябе, нязгодна з воляй настаўнікаў, вызначалі старшынёй камісіі, і лічылася толькі тое, што паводле вас было добрае?!

Пане Мордань! Калі вы ўсяго гэтага не разумееце, то вы не псіхолаг і не педагог! А калі вы не псіхолаг і не педагог, дык вядома, што перад такімі людзьмі найвышэйшы час зачыніць дзверы да супрацоўніцтва са школай і настаўнікамі.

У гэтым годзе маем за сабой дэкламатарскі конкурс. І з радасцю можна сказаць, што прайшоў ён у вялікай гармоніі, згодзе і ў радасным настроі без штатнага працаўніка Яна Морданя. Вялікая хвала тым, хто адсунуў яго ад конкурсаў і ад усяго, што звязана са школай!!! Хопіць цярпець знявагу годным людзям!

Вы, пане Мордань, пішаце, што вас бескультурна і беспадстаўна абвінавачваюць. Усё гэта выглядае зусім інакш. Гэта якраз у вас няма ніякіх падстаў нападаць на Я. Ц., бо ён учыніў вельмі культурна і тактоўна, пішучы так, а не інакш. Калі б журналіст у сваёй справаздачы напісаў усё тое, што пачуў пра вас ад настаўнікаў (тады было б вам, пане Я. Ц.!), то і тады вы не мелі б ніякага права мець прэтэнзію, бо гэта былі б словы настаўнікаў, а не яго ўласныя.

А вашае post scriptum? Аб чым яно сведчыць? Інтэлігентны і культурны чалавек ніколі не распіхаецца локцямі і як інтруз не лезе туды, куды яго не запрашаюць.

Ад імя настаўнікаў беларускай мовы

**ТАМАРА РУСАЧЫК**

P.S. Я. Морданю здаецца, што гэта адзінкі нападаюць на яго. Быць можа ёсць настаўнікі, якія хочуць супрацоўнічаць з ім. Тады напішыце аб гэтым у „Ніву", няхай ён парадуе сваю душу!!!




## *Святы мучанік Меркуры Смаленскі*

Аб жыцці святога Меркурыя ведаем з твора „Слово о Меркурым Смоленском", які ўзнік у другой палове XV стагоддзя. Ананімны твор паўстаў на аснове ранейшых традыцый. Паводле іх смаленскі мучанік паходзіў з Італіі. У Смаленск прыбыў ён як рыцар на княжаскую службу. Адрозніваўся ад іншых рыцараў адвагай, сілай і глыбокай набожнасцю. Няраз ён маліўся перад цудатворнай іконай Смаленскае Адзігітрыі. Меркурый хацеў аддаць сваё жыццё за Хрыстову веру.

Традыцыя гаворыць, што ў час нашэсця татараў хана Батыя на Кіеў у 1238 годзе, частка ягоных войск накіравалася на Смаленск. Жыхары Смаленска бачылі адно збаўленне ў заступніцтве Багародзіцы. Аднойчы прыслужнік у смаленскім саборы Успення Божай маці пачуў голас з цудатворнай іконы Смаленскай Божай маці: „Ідзі да раба майго Меркурыя на Падоле і ціха скажы яму: „Меркурый, цябе кліча ўладычыца. Ідзі ў ваенных доспехах на ворагаў!". Прыслужнік пайшоў па Меркурыя. Калі рыцар паў перад іконай, пачуў голас Багародзіцы. Яна пасылала Меркурыя супраць татараў, дакладна азначала месца, куды ён павінен ісці, абяцала яму сваю дапамогу і ў канцы мучаніцкую карону. Меркурый, паводле традыцыі, паслухаў Багародзіцу і пайшоў на ворагаў. Не заўважыўшы, прайшоў вайсковыя пасты, забіў татарскіх начальнікаў і вярнуўся назад у Даўгамосце. Там дагналі яго татары і адсеклі галаву Меркурыю. Аднак, Батый, убачыўшы вялікія страты ў сваім войску, адмовіўся ад наступлення на Смаленск і падаўся назад. Меркурый, узяўшы сваю галаву ў рукі, прыйшоў у горад. На такое цуда пазбягалася шмат людзей. Адсечаная галава абвясціла ім, што горад вызвалены ад небяспекі.

Цела Меркурыя з адсечанай галавой зложана было ў Багаяўленскай царкве ў Смаленску. Адразу жыхары горада сталі ўшаноўваць яго як святога. Аднак, варта адзначыць, што летапісы не ўспамінаюць аб змаганні смалянчан з войскамі Батыя ў 1238 годзе. Відаць, Божая маці, пасылаючы рыцара Меркурыя, абараніла Смаленск ад трагічнага лёсу многіх рускіх гарадоў у час татарскага нашэсця.

Праваслаўная Царква кананізавала святога Меркурыя ў другой палове XV стагоддзя, калі зноў з'явілася пагроза для хрысціянства. Устанавіла дзень святкавання памяці вялікамучаніка на 24-га лістапада. У гэты дзень ушаноўваецца памяць святога Меркурыя Кесарыйскага, дзень мучаніка з III стагоддзя. Служба св. Меркурыю мае аж 7 розных спіскаў. Найстарэйшая служба была напісана ў часе, калі смаленскім епіскапам быў Варсафоній (1509—1514), і вельмі праўдападобна, што ён спісаў жыццё святога вялікамучаніка.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**



### ПАСТСКРЫПТУМ

Прадстаўленыя ў „Ніве" святыя беларускай зямлі былі кананізаваны Праваслаўнай Царквой. Аб шматлікіх з іх мы мала ведаем. Не ведаем многа таксама аб тых, якія сваё жыццё прысвяцілі Госпаду Богу, а якія не былі кананізаваны Царквою. У гісторыі нашага народа ёсць таксама людзі, якія выдатна дапамаглі, каб беларускі народ прыняў хрысціянскую веру і перадаў яе другім народам.

Адна — Рагнеда, княгіня полацкая, жонка кіеўскага князя Уладзіміра, была хрысціянкай перад тым, як ён прыняў святы хрэст. Кінутая мужам, яна з сынам Ізяславам прыехала ў Беларусь. Рагнеда пабудавала манастыр у Ізяславе каля Менска і пазней сама ў яго ўступіла, прымаючы імя Анастасіі.

Праваслаўную веру прыняў вялікі князь літоўскі Альгерд-Аляксандр. У Густынскім летапісе гаворыцца, што і вялікі князь Міндоўг прыняў „веру христианскую от востока со многімі своімі бояры" („Полное Собрание Руских Летописей", т. II, стар. 341). Сыны Гедыміна былі жанатыя з праваслаўнымі княгінямі, ад якіх яны прынялі хрысціянскую веру. Успомнены ўжо князь Альгерд спачатку быў жанаты з Марыяй Яраслаўнай, віцебскай княгіняй, а пазней з Юліянай, цвярской княгіняй.

Сыны вялікіх літоўскіх князёў жаніліся амаль выключна з рускімі праваслаўнымі княгінямі. Так, напрыклад: Любарт Гедымінавіч ажаніўся спачатку з дачкой уладзімірска-валынскага князя, а потым — з дачкой растоўскага князя Канстанціна. Сыны Альгерда: Яўнуцій быў жанаты з віцебскай княгіняй, Лучвеній (Сімяон) — з дачкой вялікага маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога Марыяй, а Свідрыгайла — з дачкой цвярскога князя Барыса.

Таксама дочкі вялікіх літоўскіх князёў выходзілі замуж за рускіх уладароў. Дочкі Гедыміна: першая была замужам за маскоўскім князем Сімяонам Іванавічам, другая дачка – за галіцкім князем Юрыем Андрэевічам, трэцяя – за цвярскім князем Дзмітрыем Міхайлавічам. Дачка князя Вітаўта Сафія выйшла замуж за вялікага маскоўскага князя Васілія Дзмітрыевіча. Гэтыя сямейныя повязі даказваюць, што праваслаўная вера глыбока пранікла ў асяроддзе літоўскіх князёў, якія валодалі беларускімі землямі. Праваслаўе было там пануючай рэлігіяй да ўвядзення палітычнай уніі з Польшчай у 1386 годзе. Літоўцы не толькі прымалі хрысціянскую веру ва ўсходнім абрадзе, але і беларускую культуру.

**А.М.**

## РЭДАКТАР С. ПАЗНАНСКІ ПАЯСНЯЕ

У нядзелю 2.02.1992 г. на антэне Беластоцкага радыё здарылася памылка. На месца беларускай перадачы „Пад знакам Пагоні" а 8.30 пайшла іншая перадача — „Украінская думка". Паколькі кіраўніцтва Беластоцкага радыёвяшчання не дазволіла мне выясніць справу ў эфіры, пазвольце мне прасіць прабачэння ў нашых слухачоў — беларусаў і ўкраінцаў — на старонках вашага тыднёвіка. Прашу прабачэння не таму, што адчуваю сябе віноўным, а таму, што ў радыё працую ўжо амаль чвэрць стагоддзя і заўсёды з вялікай пашанай адносіўся да тых, хто мяне слухаў. Як дайшло да „памылкі"? Ужо даўно ў нас гаварылася пра змены ў праграме, але змены мелі быць папярэджаны дыскусіяй з беларускімі і ўкраінскімі асяроддзямі, а таксама з Праваслаўнай Царквой. Гэтым разам нічога такога не здарылася.

27.01.1992 г. я першы раз даведаўся на рэдкалегіі пра змены, якія мелі ўвайсці ў нашу праграму, пачынаючы ад 3.02.1992 г., ад панядзелку. Хоць я з імі не згаджаўся, кіраўніцтва сказала, што мяняе ўсю праграму на працягу цэлага тыдня і што „іншых магчымасцяў няма". На працягу тыдня кіраўніцтва Беластоцкага радыё вырашыла без паведамлення калегіі, што пакуль што няма чаго мяняць праграму. І вось гэта менавіта вельмі дзіўнае: калі не мяняем праграмы ў тыдні, дык чаму ж служыла змена беларускай перадачы на ўкраінскую?!

Заўсёды, калі ў нас мяняюцца праграмы, кіраўніцтва шырока інфармуе слухачоў ў прэсе і ў эфіры, кіраўнікам рэдакцый прынамсі на тыдзень раней прадстаўляе графік новай праграмы. Апрача таго, нельга мяняць праграму для нацыянальных меншасцяў без кансультацыі з імі. На гэты раз усе гэтыя фармальнасці былі абыйдзены. У знак пратэсту я падаўся ў адстаўку і яшчэ раз прашу ў нашых слухачоў — беларускіх і ўкраінскіх– прабачэння.

**СТАНІСЛАЎ ПАЗНАНСКІ,**

**былы кіраўнік праграмы для нацыянальных меншасцяў Радыё - Беласток.**




### ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

У апошнія гады на Беларусі, на хвалі нацыянальнага адраджэння, рэзка ўзрос інтарэс да сваёй гісторыі, асабліва сярод моладзі. Існуюць цэлыя арганізацыі і суполкі, якія займаюцца вывучэннем і прапагандай ведаў пра гісторыю Беларусі. На жаль, у гісторыі нашага Краю яшчэ нямала „белых плям". Адной з іх з'яўляецца перыяд другой сусветнай вайны. Пакуль што ў беларускай афіцыйнай гістарыяграфіі падзеі тых гадоў паказваюцца аднабакова. Гэта мае адмоўныя вынікі: пэўная частка беларускага насельніцтва негатыўна ставіцца да незалежнасці Беларусі, нацыянальнай сімволікі.

Менавіта, вопыт беларускага Адраджэння перыяду другой сусветнай вайны можа паслужыць сёння добрай справе стварэння беларускага войска, захавання вайсковых традыцый, больш поўнаму і правільнаму асвятленню гістарычнага шляху беларускага народа.

Вядома, што зараз у Польшчы яшчэ жывуць удзельнікі і сведкі беларускага руху часоў вайны, а Беласточчына з'яўляецца цікавым рэгіёнам малавядомых пакуль беларуска-польскіх адносін у другой сусветнай вайне.

Вялікая просьба адгукнуцца тых, хто служыў у БСА („Беларуская самаахова"), БКА („Беларуская краёвая абарона"), быў членам СМБ („Саюз беларускай моладзі"), ці служыў у польскай АК („Арміі краёвай") або працаваў у польскіх адміністрацыях на тэрыторыі Беларусі. Звяртацца можна па адрасу: 224019, Беларусь, г. Брэст, вул. Валгаградская, 6—1, Адамчык Андрэй.

# Зорка
## старонка для дзяцей



*Мастак Лявон Тарасэвіч са сваёй любіміцай Рыжай.* **Фота А. Максімюка.**

**Міхаіл Шумаў**

## АДВАЖНАЯ КОЛЮШКА

Колюшка — рыбка маленькая, як мезены палец, не болей. Жыве яна ў ціхай рэчцы і нікога не баіцца.

Здзіўляюцца яе суседкі:

— Як гэта можна нікога не баяцца? А зубастыя шчупакі? А лютыя акуні? А начны злодзей мянтуз?

Нікога не баіцца колюшка.

Вунь воддаль паказаўся страшны, паласаты, як тыгр, акунь. Прыснулі рыбкі ад жаху хто куды: адны ў траву, другія пад корч, а каторая аж на бераг выскоквае. Кожнай жыць хочацца.

Выплыў акунь на адкрытае месца, бачыць: плыве насустрач малеча, глядзіць прама ў вочы — і не ўцякае! Падпусціў ён рыбку бліжэй... Гам! І няма рыбкі.

Толькі ж раптам акунь як падскочыць, потым каменем на дно, закруціўся на месцы, зноў падскочыў, галавою трасе, пашча разяўлена, а ў ёй тая самая рыбка тарчма тырчыць. Не змог праглынуць яе акунь, дык хоць выплюнуць сіліцца, а яна засела — ні туды ні сюды. Трос, трос галавою, неяк усё ж выплюнуў — і наўцёкі, толькі яго і бачылі. А рыбка паплыла па сваіх справах, і хоць бы што.

Не ведаў акунь, што ў колюшкі грозная зброя прыхавана: тры доўгія вострыя шыпы на спіне ды яшчэ два на жываце. Ледзь небяспека якая — шыпы, бы тыя коп'і, ураз тарчма становяцца, ні з якага боку да рыбкі не падступіцца. Прагны акунь паспрабаваў, дык сам ледзь жывы ўцёк: усю пашчу пакалоў шыпамі. Так яму, разбойніку, і трэба.

Плавае сабе адважная колюшка дзе захоча, сама нікога не крыўдзіць, але ж і яе пакрыўдзіць баяцца. Нават вялікія шчупакі не чапаюць — вось яна якая!

**Малюнак Валянціны Чэпік**



## Для самых маленькіх

Эдзі Агняцвет

## ДОКТАР СМЕХ

Я хварэў.
І выйшаў з хаты
Бледны, ціхі, сумнаваты.
Ой, за гэтых шэсць дзянькоў
Наглытаўся парашкоў!
Стрэптацыд, пірамідон...
У вушах застаўся звон.

Што рабіць?
І я паехаў
У гасцінны домік смеху.

Гэта я? Качан капусты
Адлюстроўваецца ў люстры.
Ані носа, ні вачэй,
Ані шыі, ні плячэй.

Прамінула пяць хвілін —
Пяць змянілася карцін.

— Ха-ха-ха! — крычаць дзяўчаты, —
Быццам бусел, ты — цыбаты,
А вось тут — наадварот,
Ты — пузаты бегемот!..

Я пайшоў у правы бок —
Замест носа — агурок,
Ай, ай, ай, які прыгожы!
Быццам палка, палец кожны!

Азіраюся назад —
Там, у люстры — акрабат.
Галава — каля падлогі,
І пад самай столлю ногі.

Ну і ну!
З усіх бакоў
Трыццаць выйшла хлапчукоў.
Я маўчу — яны маўчаць,
Я крычу — яны крычаць.

Я пусціўся ў скокі — бачу:
Трыццаць хлопцаў „Бульбу" скачуць.
І дрыжыць зямля, як кажуць, —
„Бульбу вараць, бульбу смажаць!"

З'еў я лекаў цэлы мех —
Пахудзеў аж напалову,
А зрабіў мяне здаровым
Добры дзядзька — доктар Смех!




### ДЗЕЛЯ ГАЛОЎНАГА

Можна пагадзіцца з людзьмі, якія кажуць, што лёгкім дастаткова і таго, што яны „дыхаюць" — насычаюць чалавека кіслародам. Аднак Прырода вырашыла інакш і надзяліла лёгкія яшчэ некалькімі функцыямі.

Дыхніце на люстэрка або на аконнае шкло, і яно адразу стане матавым ад драбнюткіх кропелек вады, якую вы выдыхалі разам з паветрам. Такіх кропелек за суткі набіраецца больш шклянкі. Разам з паветрам з лёгкіх выдаляюцца не толькі вада і вуглекіслата, але і цяпло, а таксама многія харчовыя лятучыя рэчывы і лекі, якія ўжываў і прымаў чалавек. Таму лёгка здагадацца, які чалавек нядаўна еў цыбулю ці часнок, курыў або „заліваў за каўнер" — па паху ад яго цыбуляй, курывам або „перагарам". Ад хворага з глыбокім парушэннем вугляводнага абмену пачуем пах спелых яблык або ацэтону. Усё гэта сведчыць аб тым, што лёгкія прымаюць актыўны ўдзел і ў абмене рэчываў у арганізме, у тым ліку бялкоў, тлушчаў і вугляводаў.

Лёгкія з'яўляюцца таксама адным з так званых крывяных дэпо і своеасабліва ўдзельнічаюць у падтрыманні крывянога ціску. Тым больш, што ад частаты і глыбіні дыхання залежыць не толькі сардэчны рытм, але і звужэнне або пашырэнне сасудаў, а таксама іх напаўненне.

Вучоныя даўно заўважылі, што ад лёгкіх адцякае больш „вадкая" кроў, чым прыцякае да іх. На гэтай падставе яны сцвярджаюць, што і сістэма рэгуляцыі згортвання крыві таксама падпарадкавана лёгкім. Ёсць звесткі, што яны адыгрываюць немалую ролю і ў фарміраванні імунітэту арганізма.

Такім чынам, лёгкія адначасова з'яўляюцца органамі дыхання, выдалення, рэгулявання тэмпературы цела, абмену рэчываў і інш. Несумненна, што ўсё гэта патрэбна для таго, каб лёгкія маглі выконваць сваю галоўную функцыю ў найлепшых умовах.

**Г. Шэршань**





# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК ЕДЗЕ Ў ВЁСКУ

Веранічкін тата часта прывозіў з вёскі розныя смачныя рэчы: сала, каўбасу, яйкі, яблычкі, арэшкі, семачкі і шмат чаго яшчэ. І аднойчы мышка Пік-Пік вырашыла сама паехаць у вёску і папоўніць свае прыпасы. Падрыхтавала вялікі цэлафанавы мяшок, паклала ў яго чатыры маленькія, каб было куды класці здабычу, нарыхтавала розных шнурочкаў, каб завязаць поўныя мяшкі, і раніцой пабегла на аўтобусны прыпынак.

Аўтобусаў было вельмі шмат. На якім жа можна заехаць у вёску? Мышка вырашыла гэта вызначыць з дапамогай носа. Большасць аўтобусаў пахлі толькі гарачым асфальтам і бензінам, але нарэшце падкаціў маленькі абшарпаны аўтобусік, у які пачалі залазіць людзі з вялікімі клункамі, кошыкамі і вёдрамі. І пахла ад яго незвычайна: хлебам і малаком.

— Гэта тое, што мне трэба! — узрадавалася мышка і ўскочыла ў салон, схавалася пад апошнюю лаўку і заснула.

Прачнулася мышка ад таго, што нехта моцна бразнуў вядром. Бачыць Пік-Пік: аўтобус не едзе, усе людзі з яго выходзяць. Выскачыла і мышка са сваімі мяшкамі. Вакол была сапраўдная вёска: маленькія драўляныя домікі, зялёная траўка. Раптам на бліжэйшым двары Пік-Пік заўважыла ружовую кругленькую свінку.



*Веранічка, котка Пепіта і мышка Пік–Пік бягуць на конкурс прыгажосці.*

**Мал. Паўліка Шэшкі**

— Свіння — гэта сала! — успомніла мышка і хутчэй пабегла на двор.

Свіння аказалася вялікай і бруднай. Мышка патрэсла перад ёй пустым цэлафанавым мяшком:

— Ну, свіння, давай сала! Я — знакамітая мышка Пік-Пік, прыехала ад дзяўчынкі Веранічкі. Давай сала, чуеш?

Але свіння не слухалася мышкі, а ўсе поркала ружовым лычом у бруд, так што ледзь не зачапіла госцю з горада.

— Фу, лепш не звязвацца з гэтай непрыемнай асобай, — вырашыла мышка. — І сала ў яе, відаць, такое ж бруднае, як яна сама. Цікава, дзе яна яго трымае?

Але тут пабач замыкала карова.

— Карова — гэта малачко і смятанка! — узрадавалася мышка і пабегла на мыканне ў невялікую драўляную пабудову. Там сапраўды стаяла карова, але была яна такая вялікая і чорная, што мышка спалохалася. Пасля ўсё-ткі наважылася і запішчала:

— Гэй, карова! Я — знакамітая мышка Пік-Пік! Прыехала за малаком. І масла давай! І смятанку! Лепей у слоіках!

Карова была неадукаванай вясковай жывёлінай, яна не звярнула ўвагі на мышку і ледзь не затаптала яе цяжкім і брудным капытам.

Выскачыла Пік-Пік ад каровы, бачыць — куры ходзяць, нешта дзяўбуць.

— Хоць яйкамі разжывуся. — падумала мышка і пабегла да курэй.

— А ну, давайце яйкі! Яйкі, кажу, давайце!

Але куры таксама выявілі дрэннае выхаванне. Ніводнага яйка мышка не пабачыла, затое доўгалыгі певень ледзь яе не задзёўб.

Зусім разззлавалася мышка. Не вёска, а жабрацтва нейкае. Але тут заўважыла невялікі гародчык. Шуснула мышка туды, расклала свае мяшэчкі і пачала іх пакаваць: у адзін — гарох, у другі — морку, у трэці — трускалкі, у чацвёрты — агурочкі, у пяты — агрэст.

Толькі мышка скончыла завязваць поўныя мяшкі, як на яе скочыў дзікі вясковы кот. Ён сядзеў на гарышчы і заўважыў чужую мыш, якая латашыла гаспадарскі гарод.

Кінулася мышка ўцякаць. Ляціць, пад пахамі — мяшкі, у зубах — мяшок. Невядома, чым бы гэта скончылася, каб не паспела мышка ўскочыць у аўтобус. Залезла Пік-Пік са сваёй здабычай пад лаўку і заснула. А калі прачнулася, за акном мільгалі знаёмыя высокія дамы. Выскачыла на прыпынку і пабегла ў сваю норку.

Начаю Пік-Пік нават не выходзіла на „паляванне", ляжала, адпачывала пасля ўсіх перажытых небяспек і ела, ела, ела свежыя вясковыя прадукты.

**Людміла Рублеўская**

# ЗАГАДКА АГАТКІ

Мае ўнучкі — Магдаленка і Агатка Дыбіжбанскія з Гданьска яшчэ не ўмеюць пісаць па-беларуску (яны толькі пачалі хадзіць у школу), але вельмі хочуць загадаць загадку беларускім равеснікам, якія пастаянна чытаюць „Зорку". У сувязі з гэтым прыслалі мне загадку, якую назвалі „Загадка Агаткі", і папрасілі, каб я яе пераклаў на беларускую мову ды папрасіў „Зорку", каб надрукавала.

Аднойчы Магдаленка і Агатка былі з татам на экскурсіі. У адной вёсцы ўбачылі ветраны млын, які яшчэ працуе — меле збожжа. Захацелі пабачыць вятрак у сярэдзіне. Пачалі падымацца па старой драўлянай лесвіцы, а насустрач ім выйшаў млынар і выбеглі яго чатыры коцікі. Пытанне: колькі ног убачылі Магдаленка і Агатка?

**Васіль Петручук**

# ВОВАЧКА

Вовачка нацягвае на чаравікі галошы.
— Вовачка, на вуліцы суха, балота няма, — кажа мама.
— Нічога, я знайду!

* * *

У Вовачкі захварэла маці. У яе вельмі моцны насмарк. Тэлефануе сяброўка маці:
— Вова, як адчувае сябе твая мама?
— Адлюстроўванне нядрэннае, але гук затое няважны.

* * *

— Вовачка, хочаш, каб у цябе была сястрычка?
— Не, мама. І тата таксама будзе супраць. Ты памятаеш, як ён злаваўся, калі я прынёс дадому кацяня?..

* * *

Вовачка і Волечка разглядаюць кнігу „Жыццё жывёл". Заспрачаліся:
— Можа!
— Не можа!
— Можа!
— Не можа. Пойдзем, спытаем у бабулі.
Прыбеглі на кухню:
— Бабуля, у цябе могуць быць дзеці?
— Ну што вы, любыя, вядома, ужо не.
— Я ж табе казаў, што яна — самец!

**(В. Б.)**

# Пішуць школьнікі

**Добры дзень, дарагая „Зорка!"**

Пішa табе вучаніца 6 класа сярэдняй школы н-р 2 г.п. Мікашэвічы Корнева Таццяна, член гуртка „Крынічанька". Мне ідзе дванаццаты год. Вучуся я на „чатыры" і „пяць". Люблю чытаць кнігі, вязаць і шыць. У мяне ёсць сяброўка, яе завуць Лена. Яшчэ ў мяне ёсць малодшы брат, яго завуць Саша. Ён ходзіць у першы клас. Вучыцца таксама на „чатыры" і „пяць".

Мікашэвічы — гэта невялічкі пасёлак. У ім змешчаны школы, парк, бальніца, кінатэатры. Па пасёлку ездзяць гарадскія аўтобусы.

У Мікашэвічах ёсць кар'ер, дзе дабываюць граніт. Ёсць рачны порт.

Я мару, як праз пяць гадоў закончу школу. Яшчэ праз пяць — закончу інстытут і прыеду ў свой пасёлак. Я абавязкова стану ўрачом і буду лячыць хворых дзяцей. А пакуль я стараюся выхаваць у сабе акуратнасць, абавязковасць і чуласць да людзей.

Хачу сябраваць з польскай дзяўчынкай. „Зорка", падружы нас!

**Мой адрас:**
225610 Беларусь, Брэсцкая вобласць
Лунінецкі раён
г.п. Мікашэвічы
вул. Першамайская д. 112, кв. 28

**Таццяна Корнева**



# АДГАДАНКА





**Знайдзі 10 адрозненяў на гэтых малюнках.**

# ВЕРСІІ ✳ КУР'ЁЗЫ ✳ СЕНСАЦЫІ

## РАЗВЕДЧЫКІ-ЗДРАДНІКІ

**(Працяг)**

Сустрэча з савецкімі прадстаўнікамі была назначана вечарам у нядзелю. У ёй з савецкага боку мелі ўдзельнічаць Траяноўскі і Анатоль Дабрынін, а з амерыканскага — Аркадзь Шаўчэнка, яго адвакат Эрнест Грос, Марк Гарысон і супрацоўнік ЦРУ Берт Джонсан. У нядзелю Гросу паведамілі, што саветы хочуць дадаць яшчэ некалькі чалавек. На гэта Шаўчэнка не згадзіўся.

— Вечарам у нядзелю, — расказвае А. Шаўчэнка, — мы паехалі ў Нью-Йорк на спецыяльнай машыне. За намі кавалькада аўтамашын з агентамі. У горадзе праводзіла нас паліцэйская машына. Мы крыху пятлялі. Спачатку паехалі ў паўночным напрамку, затым назад, аб'ехалі з поўдня Мангатан і апынуліся на Уол-стрыт перад домам н-р 100. Джонсан выйшаў першы, усё праверыў і толькі тады прапусцілі нас цераз тратуар да ўваходу ў будынак. Праводзілі нас дваццаць агентаў, якія ўтварылі дзве шарэнгі.

З савецкімі пасламі мы адбылі сустрэчу ў офісе Гроса. Яны паінфармавалі, што мая жонка Ліна толькі што паляцела ў Маскву. Ніяк не маглі зразумець, чаму я не хачу вярнуцца ў СССР. Перадалі ліст ад Ліны: яна пісала, што я зрабіў памылку, прасіла мяне вярнуцца дадому, у Маскву. Пісьмо пісала яна, але стыль не быў яе. Наша размова нічога не змяніла. Я адмовіўся вярнуцца ў Савецкі Саюз.

Пра мой пераход у ЦРУ неўзабаве паінфармавалі ў амерыканскім тэлебачанні, пасля пісалі газеты. Мая справа была для іх сенсацыяй. Журналісты пісалі пра маю палітычную кар'еру. Яны спаборнічалі паміж сабой. У іх артыкулах было многа фантазіі адносна маёй будучыні. Некаторыя з іх бачылі мяне на пасту намесніка міністра замежных спраў СССР. Некаторыя падхапілі лінію КДБ. У адной інфармацыі гаварылася, што ў мяне быў раман з амерыканкай, у другой — я ўжо алкаголік. Толькі Тэд Шульц, журналіст „Вашынгтон пост" быў адным з нешматлікіх, хто зразумеў, што тут дзеецца. Ён адкінуў усе прыдуманыя закіды, уключна з маімі „праблемамі з алкаголем". Выявіў, што „разрыў з Масквой Шаўчэнкі быў яўна палітычны і прапагандысцкай нечаканасцю для Крамля".

Журналісты даведаліся пра маю пабыўку ў гасцініцы у Вайт Хевен. Калі мяне там не знайшлі, не спынілі сваіх пошукаў. Джонсан і некалькі асоб аховы перасялілі мяне з законспіраванай кватэры ў гасцініцу „Марыот", недалёка ад Джэрсі-сіты. На прозвішча аднаго з агентаў мы нанялі некалькі пакояў, у якія прыносілі нам яду. Пад узброенай аховай я чакаў вяртання ў Нью-Йорк Курта Вальдхайма. Да такой сустрэчы дайшло, і я падпісаў дакумент, у якім гаварылася, што я згадзіўся пайсці ў адстаўку з работы ў ААН. Са свайго кабінета я ўзяў свае кніжкі.

Затрымаўся я ў гасцініцы ў Нью-Джэрсі. Мне неабходна было пачаць новае жыццё ў вольным свеце. Хаця было мне ўсяго сорак сем гадоў, я зараз адчуваў сябе пастарэлым і вельмі адзінокім.

20 красавіка мяне прывезлі ў Вашынгтон, што ў акрузе Калумбія. Тут я меў пачаць новае жыццё. У гэтым незнаёмым мне горадзе. З маёй аховы адыйшлі Боб і Карл. Яны працавалі ў Нью-Йорку. Заступілі іх Лі Эндр'ю з ЦРУ і Сэндзі Грынфілд з ФБР. Спачатку мы знаходзіліся на канспіратыўнай кватэры ЦРУ за горадам. Жыў я ў прыгожым доміку, у прытульнай кватэры. Меў свой кабінет, спальню. Ніхто мне не перашкаджаў. Мне прыносілі абеды, якія я заказваў у гаспадыні. Нават прывезлі мае прадметы з кабінета ў ААН, усе кнігі, фотаздымкі, у тым ліку сямейныя. Я папрасіў мясцовага адваката Вільяма Геймера памагчы мне наладзіць кантакт з Лінай і дзецьмі.

Аднак, раніцай 11 мая ў дзверы маёй спальні пастукаў Эндр'ю. Прыехаў Сэндзі Грынфілд і прывёз вестку, што Ліны больш няма, і падаў газету, у якой была інфармацыя з Масквы. Была гэта лонданская „Іўнінг ньюс". У ёй я прачытаў, што Ліна пакончыла з сабой самагубствам. Усе мае намаганні, каб сустрэцца з дачкою Аннай на нішто не здаліся. Я напісаў Грамыку, але адказу не атрымаў. Прыйшлі адказы ад прэзідэнта Картэра і дзяржаўнага сакратара Сайруса Вэнса. Яны прыслалі мне свае найлепшыя пажаданні, але нічога для мяне не маглі зрабіць.

Юрыст Геймер вельмі хацеў мне дапамагчы. Звярнуўся ён да савецкага пасольства за візай. Хацеў ляцець у Маскву і там пагаварыць з Аннай, расказаць, што ў мяне ўсё ў парадку. Мы задумалі запрасіць яе да сябе ў госці. Пасольства нам, аднак, не адказала.

Я пазнаёміўся з Эйлен, судовым рэпарцёрам. Пажаніліся. Зараз я чытаю даклады ў Інстытуце міжнародных спраў, вяду навуковую дзейнасць. Мяне запрашаюць у Канаду.

У 1983 годзе я даведаўся, што вясной 1978 года мяне падазравалі ў супрацоўніцтве з ЦРУ. Я цешуся, што інтуіцыя мяне не падвяла. Адзін з агентаў КДБ, які не вярнуўся ў СССР, расказаў, што ў Маскве мяне завочна прыгаварылі застрэліць.

Працяг чытайце ў „Ніве" праз тыдзень.

Апрацаваў
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**




Сніцца мне такі сон. Быццам ехалі мы на фурманцы. Хто сядзеў на ёй, не памятаю, але некалькі асоб было, ну, і цешча.Яна злезла з фуры, як бы штось там спераду рабіла, бо каня не было. Усе смяяліся.

**Люся**

Астронку! Я табе шмат пісала. Яшчэ мне адзін сон прысніўся, мо ўжо не будзе ён абазначаць дрэннага, як тыя папяроднія — усё хвароба, ды хвароба мужа. Так яно і ёсць — захварэў і ніяк не можа хваробы адолець. А вось сніцца, што я бландзінка (у сапраўднасці валасы ў мяне цёмныя), валасы мае доўгія, за пояс сягаюць, і я іх расчэсваю грэбенем. І канец сну.

**Кацярына**

А мне, Астроне, прыснілася, што я абразаю сабе валасы. Ці не абазначае гэты сон нечай смерці?

**Анна**

Люся! У тваім жыцці паявілася нейкая няпэўная справа. Можа, яна звязана з сям'ёй твайго мужа, бо ж на фурманцы сядзела і твая цешча. У кожным разе ў сувязі з гэтай няпэўнай справай вынікнуць нейкія непрыемнасці, смутак, звязаны з няўдачай (аб гэтым сведчыць той смех).

Кацярына! Гэты твой сон не пра здароўе, а пра багацце. Не будзе ён датычыцца хваробы твайго мужа, а матэрыяльнай сітуацыі. Твае доўгія прыгожыя валасы абазначаюць, што будзе ў цябе нейкі прыбытак, дастатак.

На жаль, цябе, Анна, не магу пацешыць. Ты абразала валасы, і, хаця не абазначае гэта нічыёй смерці, дык чакае цябе матэрыяльная страта.

**АСТРОН**




Мілае Сэрцайка! Што мне рабіць? Я нешчаслівая закахалася. Па-першае, ён — жанаты. Але не толькі. Жыве за граніцай, і ў гэтым мой найбольшы боль. Хацела б бачыць яго штодзень, штохвіліну быць разам, а бачымся толькі тады, калі ён прыязджае ў Польшчу ў камандзіроўку.

Я — разведзеная. Жыву адна. Калі прыязджае мой каханы, то, вядома, жыве ў мяне. Гэтыя хвіліны дарагія і мне і яму. А пасля наступае цішыня. І так месяцы на тры, пакуль ён не паявіцца ізноў.

Аднойчы я была таксама ў яго ў гасцях. Памясціў мяне на дачы ў свайго сябры. Прыязджаў туды штодзень, прывозіў туды яду і алкаголь. А мне ўсё роўна было сумна. Я адчувала сябе адзінокай, ведаючы, што і так ён вернецца нанач да жонкі і дзяцей.

Больш ён мяне, праўда, у госці не запрашаў — відаць, занадта многа клопату было тады. Але мы сустракаемся надалей тут, у Польшчы. Матэрыяльна ён мне дапамагае, не скажу. Але ж не магу я ўсё роўна прымірыцца з маім статусам каханкі. Тым больш, што сябры як бы адхінуліся ад мяне, перасталі запрашаць у кампанію, матывуючы гэта тым, што ў мяне ёсць каханак. Але мне нават здаецца, што тут вылазіць з іх зайздрасць — на жаль, не мужчынская, а фінансавая.

Так што ў сваім каханні я самотная. Кахаю яго і ведаю, што нічога з гэтага не будзе, што сітуацыя мая безнадзейная.

Дарагое Сэрцайка! Можа ты мне дапаможаш сваёй радай вызваліцца з гэтых путаў? Мой каханы кідаць жонку і дзяцей не збіраецца, бо кажа, што ў іх на Захадзе гэта не аплочваецца.

**Ірка**

Ірка! Прызнайся, твой каханак ужо пажылы?! Бо так, як мне вядома, большасць з тых „камандзіровачных", асабліва старэйшага ўзросту, мае каханак у іншых краінах (некаторыя — у кожнай, куды едуць). Ніхто з іх гэтым занадта не перайімаецца. На нішто не разлічвае і большасць іх жанчын. Плоцяць — і добра. Пра гэта, пэўна, ведаюць твае сябры, думаючы, што і ты спаняверылася. Але ты... закахалася. Ну, што ж, і так бывае. Тады лічы, што табе яшчэ горш. Бо і вызваліцца ад грошай, падмацаваных пачуццямі, яшчэ цяжэй. Дык мо варта ў гэтым выпадку пакінуць толькі грошы, а пачуцці перанесці ў іншае месца?.. Той твой каханы хутка зразумее гэта і перанясе ў іншае месца свае грошы.

**СЭРЦАЙКА**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО?..

... Своеасаблівым барометрам можна лічыць уюна. Перад непагаддзю ён паднімаецца на паверхню вады, тым самым прадказвае змену надвор'я за суткі. Рэагуе на атмасферны ціск і сом. Звычайна ён жыве скрытна і ўсплывае на паверхню вады перад пераменаю надвор'я — непагаддзю, навальніцаю. Некаторыя аматары трымаюць уюноў у акварыумах або іншай шкляной пасудзе з вадою і такім чынам карыстаюцца паслугамі жывога барометра.

**ЯСЕНЬ**

## ПАПРАЎКА

У артыкуле Міколы Ваўранюка „Радыё Варшава па-беларуску" („Ніва" н-р 8, 23 лютага 1992) памылкова пададзены гадзіны і частотнасці беларускай перадачы V праграмы Польскага радыё. Можна яе слухаць:

**6.30 — 6.55** — на кароткіх хвалях: 41,99; 49,22 м (7145; 6095 кГц) і на сярэдніх хвалях: 1503 кГц;

**20.00 — 20.25** — на кароткіх хвалях: 41,18; 41,27; 49,22 м (7285; 7270; 6095 кГц).




## КУРАНЯ З КАПУСТАЙ

На 1 кураня, падзеленае на малыя порцыі, трэба ўзяць 10 дэкаў дробна нарэзанай саланіны, 1 вялікі качан капусты, нарэзаны даволі буйна, 4 вялікія цыбуліны, пасечаныя не надта дробна, муку, каля 2 лыжачак солі, 1/4 лыжачкі перцу, 1/2 лыжачкі тымяну, галінкі зялёнай пятрушкі.

1. Кавалкі мяса памачаць у муку.
2. Саланіну растапіць у каструльцы, выняць скваркі.
3. Класці порцыі кураняці на гарачы шмалец, смажыць з усіх бакоў, пералажыць іх на талерку.
4. Капусту і цыбулю ўсыпаць у каструльку з тлушчам, тушыць 15 мінут, часта памешваючы.
5. Падсмажаныя кавалкі кураняці палажыць у гародніну, перамяшаць, дадаць солі, перцу і тымяну, уліць паўшклянкі вады, накрыць, зменшыць агонь, тушыць на малым агні 1—2 гадзіны.
6. Пералажыць у падагрэтую місачку, упрыгожыць галінкамі зялёнай пятрушкі.

Падаваць з бульбай ці хлебам.
Прапорцыя для 4—6 чалавек.

## КУРАНЯ З ЦЫБУЛЯЙ

На 1 кураня, падзеленае на малыя порцыі, трэба ўзяць 4—5 цыбулін, нарэзаных тоненькімі скрылёчкамі, 1/2 лыжачкі імбіру або 1/4 лыжачкі змеленага англійскага зелля (пахучага перцу), 1/2 лыжачкі чабару ці маярану, соль, перац, змеленую папрыку па смаку, паўшклянкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

1. Соль, перац, папрыку, імбір і чабор перамяшаць. Кавалкі кураняці памачаць у прыправы і пакінуць на 1 гадзіну.
2. Палавіну цыбулі палажыць у каструльку са шчыльнай пакрыўкай. Кавалкі кураняці палажыць зверху, накрыць іх рэштай цыбулі, пасыпаць зялянінай, заліць 1 шклянкай вады, шчыльна накрыць.
3. Уставіць у духоўку і пячы 1—2 гадзіны.

Падаваць з бульбяным пюрэ і салатай.
Прапорцыя для 6 чалавек.

## КРЫЛЦЫ ПА-КІТАЙСКУ

На 8—12 крылцаў кураняці трэба ўзяць 2—3 лыжкі рэдкага мёду, 4 лыжкі алею, 2 лыжкі соевага соусу ці прыправы для супоў „магі", 1—2 расцертыя зубкі часнаку.

1. Усе прадукты перамяшаць, пакінуць нанач у халодным месцы.
2. Крылцы асушыць, палажыць у малую брытфану знешнім бокам уніз, змазаць палавінай марынаду, накрыць і пячы паўгадзіны.
3. Выняць страву з духоўкі, перавярнуць крылцы, змазаць рэштай марынаду, пячы яшчэ 2О—30 мінут. Крылцы павінны мець цёмназалаты колер.

Падаваць з рысам і салатай.
Прапорцыя для 2—6 чалавек.

**ГАСПАДЫНЯ**

*( Паводле кнігі Кацярыны Паспяшынскай „Якія часы, такая кухня")*

## ПАДРОБКА ПАД МАКСІМА ТАНКА

У нас іначай, чым у Варшаве —
дай Бог здароўя ўсім дэпутатам!
Тут назаўсёды ў пашане-славе
і лад калгасны, і мірны атам.

У нас ёсьць чым яшчэ пахваліцца —
прэч, буржуазная дапамога!
У нас цудоўнае кіраўніцтва —
знайшлі дурнога, за ім другога.

І справядлівасьць у нас, і згода,
і заяц на цешчу ня шле праклянцьці,
у нас ужо ёсьць роўнасьць народаў,
а будзе роўнасьць яшчэ ў багацьці.

Таму і ставімся мы з пашанай
да каго скажуць і загадаюць —
і хай зайздросьціць пані Варшава,
што беларусы бяды ня маюць!

АЛЕСЬ ЧОБАТ

## АНЕКДОТЫ

Журналіст пытаецца ў вядомай кіназоркі:
— Чаму вы кахаеце толькі багатых мужчын?
— О, вы памыляецеся! Я кахаю вясёлых мужчын. І не мая віна, што такіх няма сярод бедных.

* * *

Гараджанін, які адпачывае ў вёсцы, прыйшоў паскардзіцца да селяніна:
— Ваш сын сапраўдны хуліган!
— Што ён натварыў? — спытаўся селянін.
— Калі я праходзіў міма вашага дома, ён кінуў у мяне каштанам, цэлячыся ў галаву.
— І... ён у вас трапіў?
— Не, на шчасце.
— Так, — сказаў селянін, — тады гэта быў не мой сын.

* * *

Каля ўваходу ў царкву сядзіць жабрак. Жанчына, якая праходзіць міма, пытаецца:
— Чаму каля вас ляжаць два капелюшы?
— Адзін капялюш майго сябра, а ён цяпер у адпачынку. Прыходзіцца працаваць за дваіх.

* * *

— Муж вярнуўся дамоў у кепскім настроі.
— Я ўсё ведаю, — сказаў ён жонцы.
— Што, мілы?
— Ты здраджваеш мяне з чэмпіёнам па лёгкай атлетыцы.
— Ну, які ж ён чэмпіён! Ягоны лепшы вынік на стометроўцы ўсяго толькі адзінаццаць секунд. Цябе нехта нахабна падмануў.

* * *

Пачуўшы размову пра вядомага мастака, блыха выхвалялася:
— Ха-ха-ха! Ды я ж яго ведаю!
— Няўжо?
— Кусала аднойчы.

* * *

Ідзе Заяц па лесе і ганарыста курыць. Насустрач яму Карова. Зняважліва:
—Фу, такі малы, а курыць.
Заяц, зірнуўшы на яе:
— А ты такая вялікія — ды без ліфчыка.

Падборку зрабіў
ЯСЕНЬ





*Мэнэджэр ЗБМ, лідэр ЗБМ і ўдарнік БДА.*

## НУ І ДАЛІ! БДА:ЗБМ — 42:111

29 лютага 1992 года адбыўся першы беларускі матч. У спартыўнай зале Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім сустрэліся баскетбольныя гурты Беларускага дэмакратычнага аб'яднання (БДА) і Звязу беларускай моладзі (ЗБМ). Пасля 40 хвілін няроўнага змагання Звяз беларускай моладзі — наймалодшая беларуская арганізацыя — выйшаў абсалютным пераможцам.

Першыя пункты ў гэтым надзвычай цікавым матчы, як ні дзіўна, здабыў гурт БДА — ужо ў першых секундах гульні. Гледачам, у бальшыні баальчанам ды заўзятарам ЗБМ, перахапіла дыханне. Бэдэоўцы, у белых кашульках з партыйным васільком на грудзях, востра пачалі. Але... на гэтым добрым пачатку, бадай, усё і закончылася. Зэтбээмаўцы, у чорнай форме, з белымі Ярылаўскімі крыжамі як сімвалам арганізацыі, хутка наказалі, хто лепей падрыхтаваўся да сустрэчы. З кожнаю хвілінай павялічвалі свой рахунак, а тыя нешматлікія паспяховыя акцыі БДА над іхнім баскетам, як бы і не рабілі ніякага ўражання — ЗБМ бездакорна гойсаў па ўсёй пляцоўцы, перахапіў поле, не даў БДА ходу... Закончылася першая палова.

У другой палове БДА быццам бы ачмухалася, зрабіла больш шчыльнай сваю абарону — асадзіла зэтбээмаўцаў. Акцыі БДА над баскетам ЗБМ сталі часцейшымі, часцей таксама кончыліся яны ўдалымі кідамі. БДА адгрызалася, але ЗБМ... быў ужо далёка-далёка.

Канчатковa матч завяршыўся вынікам 111:42 у карысць ЗБМ. Абодва гурты прадставілі добрую гульню. Матч быў дынамічны, шмат было цікавых сітуацый, а гурт ЗБМ поўнасцю заслужыў на сваю перамогу ў ім.

Абодва гурты акуратна рыхтаваліся да гэтай сустрэчы, БДА месяц часу да матчу праводзіла рэгулярныя трэніроўкі. У час адпае такой трэніроўкі здарыўся выпадак — Яўген Альховік навярэдзіў сабе нагу і трапіў у бальніцу — не мог прысутнічаць на матчы. Лідэр гурту БДА Алег Латышонак ахвяраваў яму пазней сваю кашульку з першым нумарам.

Вынік матча (111:42) крыху незвычайны як на баскетбол. Асэнсаваць яго можна двума спосабамі — альбо адзін супраць другога выступілі гурты, паміж якімі розніца двух узроўняў, альбо гурты прадстаўлялі той самы ўзровень, але адзін з іх мусіў быць п'янаваты. Несумненна, пра вынік вырашыў той першы чыннік — хаця ў БДА перад усім маладыя людзі, то аднак моладзь тая ўжо крыху стараватая, каб датрымаць крок сапраўды маладому і элітарнаму ЗБМ. Што ж, чакаем цяпер рэваншу!

Баскетбольны матч 29 лютага паміж БДА і ЗБМ павінен запачаткаваць добрую традыцыю спартыўных сустрэч у беларускім асяроддзі. Зараз існуе, бадай, сем беларускіх арганізацыяў — гэта стварае магчымасць розных канфігурацыяў (агулам 21 розных матчаў). Замест грызні на старонках „Нівы" — і на іншых форумах — спажыткуйце сваю энергію на спартыўнай пляцоўцы!

АЛЕСЬ ВАСІЛЮК
Фота аўтара




*Акцыя пад баскетам БДА.*

## КАСЯК НА „Ц"




**Управа:** 1) празрыстая плёнка з віскозы, 3) птушка атрада курыных, сямейства фазанавых, вядомая на Беларусі з XVI ст. як дэкаратыўная птушка, 5) салодкі і белы, 7) ласкальная форма ад слова курыца або куранятка.

**Улева:** 2) рэдкі хімічны элемент, 4) абяцанка — ........, а дурню радасць, 6) прозвішча сучаснага беларускага жывапісца, 8) прадмет, прызначаны для гульні дзецям або невялікая аздоба, упрыгожанне.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на касяк з н-ра 6. **Управа:** сімвал, свіння, саюз, старт, столік, стрэлка, сакавік, сірата, струп, стукат, салоп, сена. **Улева:** сіта, салдат, сатана, смаркач, Сібір, сюжэт, скварка, самец, сініца, страх, струна, сорт.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Тамаш Няплоха з Бельска-Падляшскага і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.

**********************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1992 r. upływa 20 maja 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
– kwiecień – 12 000 zł.
– maj – 15 000 zł.
– czerwiec – 12 000 zł
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.